# Голас Радзімы

№ 37 (2075)
15 верасня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.


*Янка КУПАЛА*

Акалічны народ гуслі
знаў гусляра;
Песня-дума за сэрца
хапала;
Вакол гэтай думы
дудара-званара
Казак дзіўных злажылась
нямала.

Кажуць, толькі як выйдзе
і ўдарыць як ён
Па струнах
з неадступнаю песняй,—
Сон злятае з павек,
болю цішыцца стогн,
Не шумяць ясакары,
чарэсні;

Пушча-лес не шуміць,
белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка
ў той час сціхае;
Паміж вольхаў рака,
як штодзень, не бурліць,
Паплаўкі
рыба-плотка хавае.

Прытаіцца да моху
русалка, лясун,
Каня вечнага «піць»
не заводзіць;
Пад звон-песню жывучых
гусляравых струн
Для ўсіх папараць-кветка
ўзыходзіць.

1910 г.



Гэты здымак не ілюстрацыя да нейкага мастацкага твора і не сцэна са спектакля на гістарычную тэму. Фотакарэспандэнт Я. КАЗЮЛЯ сфатаграфаваў гусляра Максіма ТАКУШЭВІЧА, які жыве на Маладзечаншчыке, зусім нядаўна. (Фотарэпартаж пра самабытнага народнага музыку «Вальс сэрца» змешчаны на 8-й стар.).

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ПРАГРАМА САВЕЦКА-АФГАНСКАГА ПАЛЁТУ ВЫКАНАНА

7 верасня 1988 года міжнародны экіпаж у саставе Уладзіміра Ляхава і грамадзяніна Рэспублікі Афганістан Абдул Ахад Маманда вярнуўся на Зямлю. Самаадчуванне абодвух касманаўтаў пасля прызямлення добрае.

Як паведамлялася ўжо, намечаная на 6 верасня пасадка карабля «Салют ТМ-5» не адбылася з-за дачаснага аўтаматычнага выключэння праграмы спуску. Цэнтрам кіравання палётам быў праведзены ўсебаковы аналіз узнікшай сітуацыі і прыняты неабходныя рашэнні для забеспячэння пасадкі карабля ў зададзены раён.

Зараз работу на арбіце працягваюць Уладзімір Ціто', Муса Манараў і Валерый Палякоў.

У ходзе 6-сутачнага палёту на борце пілатуемага комплексу «Мір» савецкія і афганскія касманаўты поўнасцю выканалі намечаныя сумесныя даследаванні і эксперыменты.

Указамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за паспяховае ажыццяўленне касмічнага палёту на арбітальным навукова-даследчым комплексе «Мір» і праяўленыя пры гэтым мужнасць і гераізм двойчы Герой Савецкага Саюза лётчык-касманаўт СССР Уладзімір Ляхаў узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, а грамадзяніну Рэспублікі Афганістан касманаўту-даследчыку Абдул Ахад Маманду прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка».

СХОДЫ

## ГАДАВІНЕ РЭВАЛЮЦЫІ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

У Мінску адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных, прысвечаны 44-й гадавіне сацыялістычнай рэвалюцыі ў Балгарыі.

З дакладамі выступілі старшыня Беларускага аддзялення Таварыства савецка-балгарскай дружбы М. Мяшкоў і прадстаўнік зямляцтва балгарскіх студэнтаў, якія вучацца ў Мінску, П. Кандакоў.

Удзельнікі сходу накіравалі прывітальнае пісьмо ў адрас Усенароднага камітэта балгара-савецкай дружбы.

У рабоце сходу прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР А. Трутнеў, Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Сырaегіна.

Прысутнічалі таксама генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда і консул генеральнага консульства ПНР у Мінску Х. Каліноўскі.

ВІЗІТЫ

## ПРЫЕЗД СІРЫЙСКІХ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

У Мінску з афіцыяльным візітам знаходзілася дэлегацыя Камісіі па міжарабскіх і міжнародных справах Народнага савета Сірыйскай Арабскай Рэспублікі на чале з членам ЦК Партыі арабскага сацыялістычнага адраджэння, старшынёй Камісіі па нацыянальнай арыентацыі Народнага савета Н. Дуэйдары.

Парламентарыі Сірыі былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Пасля заканчэння сустрэчы Н. Дуэйдары адзначыў, што ў час гутаркі абодва бакі выявілі поўнае супадзенне пазіцый і пунктаў гледжання па карэнных пытаннях міжнароднага становішча, праблемах Блізкага Усходу. Кіраўнік дэлегацыі таксама падкрэсліў шматбаковы характар савецка-сірыйскага супрацоўніцтва, якое ахоплівае практычна ўсе сферы жыцця грамадства.

Праграма візіту сірыйскай дэлегацыі ў сталіцу Беларусі прадугледжвала сустрэчу з кіраўніцтвам выканаўчага камітэта Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, наведанне прамысловага і сельскагаспадарчага прадпрыемстваў.

## ЗНАХОДЖАННЕ ПАСЛА СРВ

У сувязі з правядзеннем у нашай краіне дэкады савецка-в'етнамскай дружбы ў Мінску з двухдзённым візітам пабываў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол СРВ у СССР Нгуен Мань Кам. Ён быў прыняты Старшынёй Савета Міністраў БССР М. Кавалёвым.

Высокі госць пабываў у мінскім вытворчым абутковым аб'яднанні «Прамень», дзе працуюць і ўдасканальваюць сваю кваліфікацыю грамадзяне В'етнама. У праграме знаходжання — наведанне Дома-музея I з'езда РСДРП, мемарыяльнага комплексу «Хатынь».

Нацыянальнаму святу Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам — 43-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці В'етнама быў прысвечаны ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных Мінска. З дакладам выступіў старшыня праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-в'етнамскай дружбы, Герой Сацыялістычнай Працы А. Андрэеў. З прывітальнай прамовай да прысутных звярнуўся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол СРВ у Савецкім Саюзе Нгуен Мань Кам.

Удзельнікі ўрачыстага сходу накіравалі пісьмо ў адрас Цэнтральнага праўлення Таварыства в'етнама-савецкай дружбы і яго аддзяленняў у правінцыі Біньчытх'ен, з якой падтрымліваюцца правыя дружалюбныя сувязі.

КАНТАКТЫ

## ГОСЦЬ МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І БЕЛАРУСКАГА ФІЛАРЭТА

У рэспубліцы ў якасці госця мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта знаходзіўся кіраўнік Польскай каталіцкай царквы кардынал Юзэф Глемп. У радзе гарадоў ён наведаў цэрквы і касцёлы, дзе прачытаў пропаведзі, пабываў у гістарычных мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю класікаў польскай літаратуры, усклаў кветкі да абеліскаў, узведзеных у гонар загінуўшых за вызваленне Беларусі ад гітлераўскіх полчышчаў.

У Мінску госць агледзеў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пакінуў запіс у кнізе ганаровых наведвальнікаў. У Мінскім епархіяльным упраўленні Рускай праваслаўнай царквы адбыўся прыём у гонар дэлегацыі польскага духавенства. Кардынал нанёс візіт генеральнаму консулу ПНР у Мінску М. Абядзіньскаму.

У інтэрв'ю Ю. Глемп падкрэсліў, што яму была аказана гасціннасць, удзелена ўвага мясцовых улад, адзначыў адкрытасць і шчырасць людзей, а таксама добразычлівасць праваслаўнай царквы. Такога роду кантакты прыўнесены ў жыццё перабудовай, сказаў далей Ю. Глемп. Я сустрэў узаемаразуменне нягледзячы на праблемы ў нашых адносінах, якія прыйшлі з мінулага. Сёння мы жывём у такі час, калі неабходна будаваць наша супрацоўніцтва на прынцыпах міру і гуманізму.

ДА ЮБІЛЕЮ

## ПАМЯТНАЯ МАНЕТА

6 верасня 1988 года была выпушчана ў абарачэнне памятная манета вартасцю 1 рубель у сувязі са 160-годдзем з дня нараджэння Льва Талстога — рускага пісьменніка.

Памятная манета вартасцю 1 рубель вырабляецца з меднанікелевага сплаву белага колеру і мае форму круга дыяметрам 31 міліметр.

Манета з вонкавага і адваротнага бакоў мае выступаючы кант па акружнасці.

На вонкавым баку манеты размешчаны Дзяржаўны герб СССР і ёсць надпісы «СССР», «1 рубель» і «1988».

На адваротным баку манеты размешчаны рэльефны партрэт Л. Талстога і справа па акружнасці ёсць надпіс «Л. М. Талстой» і даты «1828. 1910».

Утвараючая паверхня манеты мае два паглыбленыя надпісы «Адзін рубель», якія раздзелены двума кропкамі.

Памятная манета, якая выпускаецца ў абарачэнне ў сувязі са 160-годдзем з дня нараджэння Л. Талстога, разам з манетамі, што знаходзяцца ў абарачэнні цяпер, абавязкова да прыёму дзяржаўнымі, кааператыўнымі, грамадскімі прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, калгасамі і асобнымі грамадзянамі ва ўсе віды плацяжоў, а таксама ўстановамі банкаў СССР і прадпрыемстваў міністэрстваў сувязі для залічэння на бягучыя, разліковыя рахункі, ва ўклады, на акрэдытывы і для пераводу без усякіх абмежаванняў.

СПРАВЫ МАЛАДЫХ

## ВЫРАСЦЕ ВУЛІЦА

Добрую памяць пакінуў у працаўнікоў калгаса імя Максіма Горкага Валожынскага раёна будаўнічы атрад з Мінскага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча № 24 будаўнікоў. Шэсць жылых дамоў, рэканструкцыя жывёлагадоўчай фермы — вось вынік летняга працоўнага семестра маладых будаўнікоў са сталіцы рэспублікі. З гэтым атрадам калгас заключыў дагавор на наступны год на будаўніцтва жылля ў вёсцы. Значыць, будзе ў вёсцы Вішнева — цэнтральнай сядзібе гаспадаркі — цэлая вуліца з сучаснымі пабудовамі. У мясцовым Доме культуры цёплыя словы падзякі будатрадаўцам за такую патрэбную працу выказалі вяскоўцы.

НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ЯК ЛАЗЕРУ ПРАЦАВАЦЬ

Трэці раз вучоныя, якія займаюцца кагерэнтнай і нелінейнай оптыкай, сабраліся на свой форум у Мінску. Першая канферэнцыя, якая адбылася тут жа ў 1965 годзе, і ўсе наступныя насілі статус усесаюзных. Цяперашняя, трынаццатая па ліку — міжнародная.

Месца сустрэчы выбрана, зразумела, не выпадкова. Бо Мінск — буйны цэнтр аптычнай навукі і квантавай электронікі. Зарубежныя вучоныя і раней прыязджалі на гэтыя канферэнцыі ў якасці гасцей. Сёлета звыш двухсот вядучых спецыялістаў будуць прадстаўляць буйнейшыя навуковыя цэнтры лазернай фізікі ЗША, ФРГ, Канады, Японіі, Францыі, Італіі, Вялікабрытаніі, Нідэрландаў, КНР, Індыі, сацыялістычных краін. Самая прадстаўнічая дэлегацыя — савецкая. У ёй каля дзевяцісот чалавек. Канферэнцыя такіх маштабаў у гэтай галіне — першая.

СВЯТА ГОРАДА

## СТАЛА ТРАДЫЦЫЯЙ

На Цэнтральнай плошчы Заслаўя адбылося ўрачыстае адкрыццё свята горада. На ім мясцовыя жыхары і госці змаглі пазнаёміцца з выстаўкамі твораў мастацтва і кветак, пачаставацца вырабамі кулінараў.

Дзятву чакала радасць: у скверы адбылося адкрыццё дзіцячага гарадка. Аматары шахмат і шашак правялі сеансы адначасовай гульні. Для жыхароў і гасцей горада дэманстраваліся моды.

КААПЕРАТЫВЫ

## ПЕРАШЛЕ ПАСЫЛКУ «МАЛАНКА»

Паскораную дастаўку пасылак і бандэролей у 254 гарады Савецкага Саюза гарантуе кааператыў «Маланка», які пачаў абслугоўваць мінчан і гасцей беларускай сталіцы.

Прааналізаваўшы графік руху самалётаў, цыгуначных вагонаў, паштовых аўтамабіляў, кааператары склалі спецыяльныя табліцы. Улічылі таксама прыпынак у гарадах, дзе адбываецца абмен поштай. Паявілася магчымасць беспамылкова вызначаць самыя аптымальныя і хуткія маршруты. Выйгрыш для тых, хто па нейкіх прычынах асабліва спяшаецца, вельмі адчувальны. Напрыклад, пасылка, адпраўленая з Мінска ў Кіеў «Маланкай», абганяе звычайную пошту на суткі, а часам і больш.

Уся працэдура афармлення ў кааператыве, які размясціўся ў прычыгуначным паштамце, займае літаральна некалькі мінут. Бо працуюць тут паштавікі: пенсіянеры і тыя, хто свабодны па вечарах. Аплата звычайная, па дзяржаўных тарыфах, плюс незалежна ад адлегласці і вагі каля 70 капеек за тэрміновасць. Па жаданню кліента адпраўляемыя рэчы тут жа ўпакоўць у любую тару — усе яе віды кааператары вырабляюць самі.

СУПРАЦОЎНІЦТВА



Членамі шматтысячнага калектыву вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш» сталі маладыя в'етнамцы. Як і прадугледжана міжурадавым пагадненнем, юнакі і дзяўчаты з брацкай краіны авалодваюць тут масавымі прафесіямі, працуюць на аднолькавых правах з савецкімі сябрамі, разам адпачываюць.

**НА ЗДЫМКУ:** савецкая і в'етнамская моладзь у час перапынку ў рабоце.

ГОНАР МАРКІ

## «МАЛЫШ» ЕДЗЕ Ў АНГЛІЮ

Адно з вядучых прадпрыемстваў Пінска — вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне пастаянна расшырае рамкі супрацоўніцтва з аднатыпнымі прадпрыемствамі. Пачынаючы з другога паўгоддзя, «Пінскдрэў» будзе ажыццяўляць пастаўкі сваёй прадукцыі на экспарт у капіталістычныя краіны.

Адна з гандлёвых фірм Федэратыўнай Рэспублікі Германіі «Штайнхоф» закупіла сёлета 20 тысяч крэслаў на металічным каркасе, выпуск якіх пачаты на Гродзенскай фабрыцы школьнай мэблі. Прадстаўнікі фірмы прапаноўваюць супрацоўніцтва з Пінскім дрэваапрацоўчым аб'яднаннем і ў наступным годзе, ужо ў большым аб'ёме, згадзіўшыся павялічыць закупку крэслаў да 150 тысяч адзінак. У цэху струганай шпоны і вырабаў з адходаў пачата асваенне і выпуск дзіцячага набору мэблі «Малыш» для экспарту ў адну з высокаразвітых капіталістычных краін — Вялікабрытанію. Да канца года трэба выпусціць і паставіць пакупніку 50 тысяч набораў.

Невялікі па аб'ёму набор дзіцячай мэблі «Малыш» складаецца з мініяцюрнага століка, двух крэслаў і крэсла-качалкі, якое ў любога дзіцяці выклікае захапленне.

РЭСТАЎРАЦЫЯ

## НА РАДЗІМЕ ПАЭТА

Пачата рэстаўрацыя дома-сядзібы беларускага паэта-дэмакрата Францішка Багушэвіча ў вёсцы Кушляны на Смаргоншчыне. Работы вядуць спецыялісты навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань аб'яднання «Белрэстаўрацыя». Ім дапамагаюць мясцовы калгас «50 год СССР» і жыхары раённага цэнтра, якія ўдзельнічаюць у суботніках. Завяршыць рэстаўрацыю намечана ў сакавіку 1990 года — да 150-годдзя з дня нараджэння паэта.

У абноўленым доме размесціцца музей, дзе будуць прадстаўлены мэбля і асабістыя рэчы Ф. Багушэвіча, яго фатаграфіі, копіі рукапісаў твораў, дакументаў. У мемарыяльны комплекс увойдуць таксама старадаўні парк, каштанава-бярозавая алея, драўляная капліца, пабудаваная, паводле падання, самім паэтам і яго сябрамі ў памяць аб загінуўшых тут паўстанцах, і іншыя пабудовы.

ПАСКАРАЕЦЦА ВЫРАШЭННЕ ЖЫЛЛЁВАЙ ПРАБЛЕМЫ

# УЛАСНАЯ «ФІРМА»

Быць выразнікам інтарэсаў працоўных, абараняць гэтыя інтарэсы, на справе дапамагаць вырашаць жыццёвыя праблемы, што хвалююць людзей, — усё пералічанае ставяць сабе ў абавязак прафсаюзныя камітэты прамысловых прадпрыемстваў, разнастайных устаноў. І, бадай, адна з найгалоўнейшых і найвастрэйшых праблем нашых прафсаюзаў — жыллёвая. Безумоўна, самастойна пабудаваць мікрараён ці хаця б нават адзін дом прафсаюзны камітэт не ў стане. Але актывізаваць адміністрацыю, патрабаваць ад яе неабходных дзеянняў, разам з самім працоўным калектывам шукаць нейкае дадатковае выйсце, каб хутчэй вырашыць задачу, — не толькі можа прафком, але і абавязаны. Так робіцца на многіх прадпрыемствах, так адбываецца і ў вытворчым аб'яднанні «Ваўкавыскцэментшыфер». Тут вырашылі практычна ліквідаваць жыллёвую чаргу ўжо да 1995 года.

— Яшчэ некалькі гадоў назад сцвярджэнні нашых актывістаў у гутарках з рабочымі, што ўсіх «чаргавікоў» можна забяспечыць жыллём у бліжэйшыя дзве пяцігодкі, выклікала б толькі скептычныя ўсмешкі завадчан, — расказвае старшыня прафсаюзнага камітэта Мар'ян Юроўскі, — на ўліку стаяла каля пяцісот сем'яў, і чакаць кватэры даводзілася больш дзесяці гадоў — тэрмін вельмі вялікі.

Мы адчувалі, што так доўга цягнуцца не можа, трэба нешта прадпрымаць. Ужо цяжэй стала агітаваць выпускнікоў школ ісці на вытворчасць, не змяншалася цякучасць кадраў. Галоўнай прычынай пры звальненні работнікі называлі «адсутнасць жылля». Спрабавалі вырашыць гэтае пытанне ў Мінску, у сваім міністэрстве...

Не ведаю, колькі б яшчэ прыйшлося спрачацца, даказваць. Ды і ці быў бы станоўчы вынік, таксама цяжка сцвярджаць. Але час, усё наша сённяшняе развіццё запатрабавалі змяніць адносіны да сацыяльных патрэб працоўных. Палагаднелі і ў міністэрскіх кабінетах. Ужо ў 1986 годзе аб'яднанню выдзелілі сродкі для будаўніцтва індывідуальных катэджаў.

Чаму катэджаў? Многія задавалі нам такое пытанне, раілі накіраваць гэтыя грошы на ўзвядзенне тыпавых панельных дамоў, спрабавалі нават пераканаць, што рабочаму катэдж не патрэбны. Ён, быццам бы, даўно адвык ад зямлі, імкнецца толькі да камунальных зручнасцей. Нашы актывісты лічылі інакш. Абмеркавалі пытанне на пасяджэнні прафсаюзнага камітэта, на агульным сходзе работнікаў прадпрыемства і вырашылі ўзвесці менавіта катэджы, і ў першую чаргу для самых заслужаных людзей аб'яднання, ветэранаў вытворчасці, роданачальнікаў рабочых дынастый.

Каробкі тых першых 12 катэджаў былі пабудаваны ў рэкордныя тэрміны спецыялістамі, а ўсю астатнюю «начынку» ўстанаўлівалі самі будучыя жыльцы разам з таварышамі па рабоце. Можна, безумоўна, запярэчыць: гэта трэба рабіць будаўнікам, а не рабочым. Кожны павінен займацца сваёй справай. Усё так. Згодны. Але нельга забываць, што гэтая мера вымушаная: наш прафсаюз палічыў за лепшае не чакаць выпраўлення хібаў кімсьці, а самім прыспешыць вырашэнне праблемы, якая тычыцца асабістых інтарэсаў кожнага з нас. Калі ж усе будуць сядзець склаўшы рукі, то яшчэ доўга даброт. прыйдзецца чакаць жыццёвых

І сёння, напрыклад, з задавальненнем успамінае напружаныя месяцы «даводкі» ўласнага катэджа брыгадзір вапнавага завода Міхаіл Сівец:

— Дзевяць гадоў наша сям'я, у якой 5 чалавек, жыла ў двухпакаёўцы. Было цеснавата. Таму, калі прапанавалі выканаць аддзелачныя работы ў катэджы, каб хутчэй справіць наваселле, адразу згадзіўся. Завод выдзеліў фарбу, шпалеры, іншыя матэрыялы. А ў рабоце дапамагалі сваякі, таварышы па цэху.

Катэдж для сям'і М. Сіўца атрымаўся на славу: з прасторнымі кухняй і залай, трыма спальнямі. Асабліва радуе гаспадара наяўнасць прысядзібнага ўчастка, а ў хлеўчуку гадуюцца трусы. Марыць ён і аб тым, каб абзавесціся іншай жыўнасцю.

Сярод навасельцаў, што таксама атрымалі добраўпарадкаваныя катэджы, відаць, асабліва пашанцавала мнагадзетнай сям'і В. Бычана, у якой падрастаюць васьмёра малых. Іх бацькі працуюць на асбестацэментным заводзе. Раней яны жылі ў трохпакаёвай кватэры. Таму новы добраўпарадкаваны катэдж з усімі зручнасцямі і гаражом аказаўся якраз дарэчы. Усе васьмёра размясціліся ў ім найлепшым чынам.

— Усяго ж за два апошнія гады пабудавана, — працягвае М. Юроўскі, — 24 катэджы і 79-кватэрны жылы дом. І скептыкаў адразу паменшала: жыллёвая праграма на вачах стала ажыццяўляцца.

Для гэтага на [illegible]аднанні перш за ўсё стварылі ўласную будаўнічую базу. Раней тут ужо былі два ўчасткі, якія выконвалі рамонт вытворчага абсталявання і ўжо існуючага жылля. Аднак абодва — маламоцныя. Рэальна з[illegible]спечыць выкананне напруж[illegible] праграмы па жыллю яны не маглі. А чаму б іх не аб'яднаць? Так у складзе аб'яднання ўзнікла «няпрофільная» вытворчасць — «Ваўкавыскцэментабуд».

Нельга сказаць, што адразу вырашылі ўсе праблемы. Таму новай арганізацыі стараліся ўдзяліць максімум увагі забеспячэнню, члены прафкома аб'яднання. І справа зрушылася з месца.

Дарэчы, адміністрацыю аб'яднання не давялося пераконваць у неабходнасці самім будаваць жыллё. Людзі даўно заклікалі перастаць скардзіцца на розныя прычыны, а будаваць самім. І як толькі ў галіне пачалі пераходзіць на гаспадарчы разлік, мы адразу вырашылі, што нам рабіць. Новыя ўмовы дазваляюць больш эфектыўна выкарыстоўваць сродкі, перагаразмяркоўваць іх у адпаведнасці з патрэбнасцямі людзей.

Па ўсім відаць, нам гэта ўдаецца. Уласная «фірма» ўзводзіць сёлета гаспадарчым спосабам дом быту, пральню, 68-кватэрны жылы будынак з магазінам і дзіцячым пакоем. Праз нейкі час закладзём яшчэ тры катэджы, 80-кватэрны дом, яшчэ адзін, на 110 кватэр, пачне будаваць падрадная арганізацыя.

Усё гэта дазволіла стварыць стабільны калектыў, замацаваць кадры. У тым, што кірунак выбраны правільны, упэўніліся ўжо сёлета. Толькі ў апошні час на работу прынята каля 100 чалавек.

І зараз у аб'яднанні ўсе адчулі: справа гэта перспектыўная. У прафкоме прадпрыемства ўпэўнены: сродкі, якія ўкладваюцца ў будаўніцтва санаторыя-прафілакторыя «Пралеска», рамонт клуба ці дзіцячых садоў, акупяцца. У перспектыве плануем, акрамя жылля, узвесці піянерскі лагер, вадалячэбніцу, маладзёжнае кафэ і мотаклуб. Адным словам, хутка будуць у нас новыя наваселлі.

Мікалай БАЖКО.





Сёння Беларуская чыгунка, яе работа выклікае вялікую цікавасць ва ўсёй краіне. Ужо працяглы час яна працуе ва ўмовах эканамічнага эксперыменту, які скіраваны на павышэнне эфектыўнасці вытворчасці. І вось зроблены новы крок. Летась беларускія чыгуначнікі, першыя ў сваёй галіне, перайшлі на поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Вынікі гэтага ўжо ёсць, і яны станоўчыя. За першае паўгоддзе прыбытку атрымана звыш планаемага на 40 мільёнаў рублёў.

НА ЗДЫМКАХ: машыніст-інструктар Мінскага лакаматыўнага дэпо, дэлегат XIX партыйнай канферэнцыі Святаслаў САНЧУК; маладыя праваднікі вагонаў Наталля ЧУРЫЛА (злева) і Лада ЖУКАВА.

*ШЛЮБЫ І РАЗВОДЫ*

# ХТО І ШТО ПСУЕ СТАТЫСТЫКУ

**У 60-я гады разводы ў СССР сталі масавай з'явай і іх лік хутка рос, дасягнуўшы свайго піку ў 1979 годзе. Затым рост, праўда, спыніўся, але разводаў па-ранейшаму многа: 0,9 мільёна на 2,7 міл[illegible]ёна шлюбаў, заключаных за год. Што [illegible]маюць наконт гэтага дэмографы?**

— Каэфіцыент разводаў адзін да трох зусім не азначае, што распадаецца кожная трэцяя сям'я, — удакладняе кандыдат эканамічных навук **Марк ТОЛЬЦ**. — Суадносіць трэба з агульнай колькасцю сямейных [illegible]ар. І тады высветліцца, што ўзровень ра[illegible]ў у СССР складае 1,4 працэнта. А гэта, [illegible]адзіцеся, ніяк не сведчыць аб масавым адмаўленні сямейных адносін. Наадварот, працягваецца агульны рост колькасці сямей, у апошнія гады статыстыка адзначае і павелічэнне паўторных шлюбаў.

І ўсё ж радавацца не трэба. Штогод у краіне больш за 700 тысяч дзяцей ва ўзросце да 18 год застаюцца пры жывых бацьках без аднаго з іх. А чым можна вымераць псіхалагічны стрэс... Адсюль і зусім зразумелая заклапочанасць грамадскасці, вучоных, натуральнае жаданне садзейнічаць умацаванню сям'і, павышэнню яе прэстыжу.

Але як?

Адзінай думкі наконт гэтага няма. Гавораць, напрыклад, аб трываласці старой, патрыярхальнай сям'і. Але тут немагчыма прамое супастаўленне ўжо хаця б таму, што развод у дарэвалюцыйнай Расіі быў заканадаўча абмежаваны, а жонка і дзеці былі эканамічна залежныя ад галавы сям'і. Падманлівыя колькасныя параўнанні і па розных перыядах развіцця савецкага грамадства. У 20—30-х гадах, напрыклад, фактычны шлюб быў ураўнаваны ў правах з юрыдычным і часта тады не рэгістраваўся. А пасля другой сусветнай вайны шлюб, а значыць, і развод, знаходзіліся пад моцным уздзеяннем парушэння балансу полаў, і закон ставіўся прымянальна да гэтага надзвычайнага становішча. Таму першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі непараўнальныя з наступнымі. Я ўпамінаю ўсё гэта, паколькі ідэалізацыя старога перашкаджае бачыць сапраўдныя шляхі ўмацавання сям'і.

Бытуе, у прыватнасці, і такая думка, быццам, зрабіўшы больш жорсткім заканадаўства, можна прымусіць моладзь сур'ёзней ставіцца да шлюбу. Прапануецца, напрыклад, падоўжыць тэрмін паміж заручынамі і ўступленнем у шлюб. Аднак сёння — пра што ў нас раней не прынята было гаварыць — рэгістрацыя шлюбу для многіх маладых пар з'яўляецца ў нечым падзеяй вымушанай: нявеста чакае дзіця. Такіх шлюбаў сярод моладзі ў вялікіх гарадах, як паказваюць даследаванні, да палавіны. У гэтых вымушаных саюзах вышэй і верагоднасць разводаў, менавіта яны ў значнай ступені і псуюць статыстыку.

Не палепшаць яе і любыя штучныя цяжкасці ў працэдуры самога разводу. З'явіцца астрах перад шлюбам, жаніх, ды і нявесты будуць цягнуць з рэгістрацыяй, адкладваць яе, вырасце так званая пазашлюбная нараджальнасць. Развод з перашкодай ніяк не будзе садзейнічаць і ўмацаванню сям'і, таму што юрыдычнае скасаванне шлюбу з'яўляецца па сутнасці рэгістрацыяй яго смерці. Ды і навошта захоўваць сям'ю, калі муж і жонка сталі чужымі адзін аднаму? Упэўнены, што дзецям жыць у такой сям'і настолькі ж проціпаказана, як і дарослым.

У Савецкім Саюзе разумеюць, што змагацца трэба не супраць разводаў, а за тое, каб шлюбы былі больш жыццяздольнымі. Не ўсе маладажоны вытрымліваюць бытавыя цяжкасці. Між тым у Маскве, напрыклад, асобнае жыллё мае ў сярэднім толькі кожная чацвёртая маладая пара. Амаль трэць маладажонаў адкладвае з-за гэтага, а таксама з-за недастатковага бюджэту пашырэнне сям'і. Дарэчы, як высветлілі сацыёлагі, прыкладна 60 працэнтаў апытаных маладых сямей разлічваюць на матэрыяльную дапамогу бацькоў.

Словам, патрэбна добра збалансаваная сацыяльная палітыка. І важныя крокі ў гэтым напрамку робяцца. Ужо цяпер маладажонам прадастаўляецца беспрацэнтная доўгатэрміновая пазыка на паляпшэнне жыллёвых умоў ці абзавядзенне хатняй гаспадаркай. Вялікую ролю ва ўмацаванні маладой сям'і адыграе ажыццяўляемая задача забяспечыць да 2000 года кожную сям'ю асобнай кватэрай. Павялічваецца доля грамадскіх фондаў спажывання, прызначаная для моладзі. Будуць павышацца памеры стыпендый студэнтам і аспірантам і зарплата маладым спецыялістам. Многае змяніць і Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці, які даў магчымасць дадатковага заробку.

Але не толькі матэрыяльны дастатак вызначае самаадчуванне сям'і. Прычыны многіх канфліктаў звязаны з празмернымі нагрузкамі ў сферы быту, асабліва ў жанчын. І як бы справядліва гэтыя нагрузкі ні размяркоўваліся паміж мужам і жонкай, радыкальнае паляпшэнне сітуацыі надыдзе толькі тады, калі сфера паслуг дасягне ўзроўню, які адпавядае сучасным патрабаванням. Перабудова тут вядзецца, прыняты буйныя меры па паскоранаму развіццю службы быту, грамадскасць настойліва дабіваецца перадому ў адносінах да гэтай службы савецкіх і гаспадарчых органаў.

Прычынай сямейных разладаў часта называюць п'янства. Праўда, і тут не ўсё адназначна. Вядома, п'янства — вораг сям'і. Але ці заўсёды ясна, дзе тут прычына, а дзе вынік? Ці таму сямейнае жыццё не ўдалося, што чалавек п'е, ці ён п'е, таму што жыццё ў сям'і не склалася? Іншымі словамі, п'янства і распад сям'і звязаны агульнымі прычынамі — узроўнем маральнай і эстэтычнай культуры чалавека, тым больш маладога. Такім чынам, намаганні павінны быць накіраваны і накіроўваюцца на выхаванне маральнага фундаменту асобы, пачуцця сацыяльнай адказнасці. Вялікія надзеі ў гэтым плане ў СССР звязваюць з рашучым наступам на п'янства і актыўнай антыалкагольнай прапагандай, якія ажыццяўляюцца ў апошнія гады.

Адзначу, нарэшце, і той факт, что ў сваіх дэмаграфічных паводзінах насельніцтва рэагуе на сацыяльна-палітычную атмасферу ў краіне. Вядома, спрашчаць тут не варта, але на сацыяльным самаадчуванні сям'і адбіваюцца, безумоўна, надзеі на пазітыўныя перамены ў жыцці грамадства, звязаныя з перабудовай. Змяненне грамадскага настрою, увага да праблем сям'і, павышэнне яе аўтарытэту, павелічэнне дапамогі ёй дзяржавы — усё гэта з'яўляецца дзейсным сродкам умацавання сямейных адносін. Аб гэтым гавораць і тэндэнцыя да росту трываласці сям'і на такім па-свойму крытычным адрэзку, як першы год шлюбу, і стабілізацыя ўзроўню разводаў у цэлым, і адваротны рост нараджальнасці.

**ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»**




«У тых, хто трапіў у ЗША, тыповая біяграфія. Крывавыя злачынствы ў час вайны, уцёкі ад наступаючых савецкіх войск, лагеры для перамешчаных асоб або зацішнае сховішча ў якім-небудзь глухім месцы, увага да гэтых суб'ектаў з боку амерыканскіх разведвальных службаў, пераезд у ЗША. Далей іх шляхі разыходзяцца—адны супрацоўнічаюць з ЦРУ і ФБР, другія працуюць на амерыканскую ваенную прамысловасць, трэція шчыруюць у ролі рознага роду кансультантаў і партнёраў прыватных фірм».

Гэтыя словы належаць супрацоўніку кампаніі ЭЙ-бі-сі Т. О'Браену і змешчаны ў зборніку публіцыстыкі, памфлетаў і фельетонаў «Двайная гульня», які выйшаў у свет у «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы». Яны справядлівыя ў дачыненні, бадай, да кожнага з «герояў» гэтай кніжкі, мёртвых і жывых, якія знайшлі прытулак у Злучаных Штатах Амерыкі, Аўстраліі, Англіі ці Канадзе. Аўтары зборніка выкрываюць сапраўдны твар былых гітлераўскіх паслугачоў, а цяпер рэспектабельных грамадзян капіталістычных краін, паказваюць, што крыецца за шыльдай «культурна-адміністрацыйнай» дзейнасці былых бургамістраў, паліцэйскіх, карнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Нягледзячы на мора слёз і крыві, у якім захлынулася Беларусь, яны не хацелі бачыць таго, што прынёс фашызм нашай краіне і яе народу. Несумленныя людзі, пазбаўленыя святога для кожнага чалавека пачуцця любві да сваёй Бацькаўшчыны, яны дапамагалі гітлераўцам рабаваць сваю зямлю, забіваць жанчын, старых, дзяцей, якія не маглі аказаць ім дастойнага супраціўлення.

Некалькі гадоў назад у ЗША выйшла кніга Джона Лофтуса «Сакрэт Беларусі», у якой ён расказаў аб злачынствах, што тварылі здраднікі беларускага народа ў гады другой сусветнай вайны, а потым знайшлі прытулак за акіянам і новых гаспадароў, якім таксама была патрэбна іх стараннасць і адданасць.

Язэп Малецкі, Аляксандр Надсон, Міхаіл Белямук... Яны і сёння за мяжой жывуць сярод беларусаў-патрыётаў, людзей сумленных і шчырых, здольных радавацца за свой народ, вітаць яго поспехі і перамогі. Здраднікі служаць богу, пішуць вершы, успаміны, імкнучыся і ў гэтым новым жыцці чорнае падаць белым, а крыўду—праўдай. Але хіба можна верыць людзям, якія не любілі сваю маці, гандлявалі Радзімай, служылі і служаць таму, хто больш плаціць?!

**Д. БАБАК.**

# НА РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ПЕРАЛОМЕ

**(З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ Ў 1917 ГОДЗЕ)**

Выступаючы ў Доме літаратара на вечары, прысвечаным 100-гадоваму юбілею Алеся Гаруна, пісьменнік Барыс Сачанка зазначыў: «Беларускі нацыянальна - вызваленчы рух — адна з найскладанейшых старонак нашай гісторыі. Але замест таго, каб належным чынам вывучыць, разабрацца ў тым, што было, яго па розных прычынах на працягу доўгіх гадоў проста абыходзілі маўчаннем, наклаўшы «табу» на многія факты і імёны, забараніўшы іх нават упамінаць». Тут можна было б запярэчыць наконт сцверджання, быццам даследчыкі замоўчвалі беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Прынамсі, за апошнія 15 — 20 гадоў гісторыкамі, літаратуразнаўцамі, юрыстамі, філосафамі напісана не так і мала работ, у якіх у тым ці іншым кантэксце разглядаюцца асобныя сюжэты з гісторыі гэтага руху. І ўсё ж нельга не падзяліць заклапочанасці пісьменніка станам навуковай распрацоўкі згаданай праблемы. Сапраўды, да нядаўняга часу спецыяльнае вывучэнне беларускага нацыянальнага руху лічылася не вельмі пажаданым, сустракалася з насцярожанасцю, а тыя нешматлікія дакументальныя крыніцы, што дайшлі да нашых дзён, апынуліся ў сакрэтных фондах, на варце якіх непрыступнай сцяной сталі іх пільныя захавальнікі. Між тым нацыянальна-вызваленчы рух беларускага народа, як і іншых народаў дарэвалюцыйнай Расіі, —з'ява хоць і супярэчлівая, але цалкам заканамерная, абумоўленая комплексам прычын сацыяльна-палітычнага і гістарыка-культурнага плана. Гэта рэальная, непрыдуманая старонка мінулага. Без аб'ектыўнага вывучэння, заснаванага на строгім аналізе фактаў, наўрад ці зможам мы ва ўсёй паўнаце асэнсаваць няпросты шлях народаў нашай краіны да сацыяльнага вызвалення і нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння, па-сапраўднаму зразумець вытокі сённяшніх праблем у сферы нацыянальных узаемаадносін.

Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух узнік на гістарычнай арэне як адлюстраванне і і неад'емная частка аб'ектыўнага працэсу складання беларускай нацыі. Працэс гэты адбываўся ў вельмі неспрыяльных умовах паліцэйска-чыноўніцкага рэжыму самадзяржаўнай Расіі. Беларусь не толькі не мела ніякай палітычнай самастойнасці, але не з'яўлялася нават адміністрацыйнай адзінкай: яе тэрыторыя была адвольна падзелена паміж рознымі губернямі без уліку этнічнага складу насельніцтва. Праводзячы палітыку гвалтоўнай русіфікацыі, царскія ўлады не прызнавалі існавання самастойнай беларускай нацыі і яе мовы, усяляк абмяжоўвалі развіццё нацыянальнай літаратуры, тэатра, іншых відаў мастацкай творчасці. Такая палітыка абражала нацыянальныя пачуцці беларусаў, выклікала пратэст. Разам з тым народная гаспадарка краю развівалася як састаўная частка агульнарасійскай эканомікі, прычым у эканамічным сэнсе Беларусь не з'яўлялася калоніяй Расіі. Карэннае насельніцтва не зведвала асаблівых дыскрымінацыйных мер у галіне эканомікі, і таму поспехі ці няўдачы ў гэтай найважнейшай сферы жыццядзейнасці чалавека не звязваліся ў свядомасці беларусаў з іх нацыянальнай прыналежнасцю. Адзначаная акалічнасць, а таксама гістарычная і культурная блізкасць беларусаў да суседніх народаў, іх нязначная ўдзельная вага ў складзе гарадскога насельніцтва краю, адсутнасць рэлігійнага адзінства (прыкладна тры чвэрці беларусаў былі праваслаўнымі, адна чвэрць — каталікамі), а таксама шэраг іншых фактараў стрымлівалі рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, запавольвалі кансалідацыю беларусаў у нацыю.

Пачынальнікамі і найбольш актыўнымі ўдзельнікамі нацыянальна - вызваленчага руху на Беларусі сталі прадстаўнікі інтэлігенцыі. Маладая беларуская інтэлігенцыя, якая інтэнсіўна фарміравалася на пачатку нашага стагоддзя, востра ўспрымала нераўнапраўе беларусаў у галіне культуры, мовы, асветы. Яна шчыра імкнулася дапамагчы свайму народу сцвердзіць яго права на самастойнае развіццё, стаць гаспадаром свайго лёсу. Але не ўсім удавалася знайсці правільныя шляхі да гэтай, безумоўна, высакароднай мэты. Не з'яўляючыся самастойным класам, займаючы прамежкавае становішча ў сацыяльна-класавай структуры грамадства, інтэлігенцыя была схільна абстрагіравацца ад класавых супярэчнасцей, перабольшваць значэнне агульнанацыянальных інтарэсаў. Гэта штурхала частку інтэлігенцыі на пазіцыі нацыяналізму, што ў патрэбныя для сябе моманты выкарыстоўвалі пануючыя класы нацыі, а таксама замежныя інтэрвенты — спачатку нямецкія, а затым польскія.

Складана, неадназначна паўплывала на беларускі нацыянальна - вызваленчы рух першая сусветная вайна. З аднаго боку, выкліканыя вайной масавыя міграцыі насельніцтва (адыход з тэатра ваенных дзеянняў соцень тысяч бежанцаў, мабілізацыя часткі мужчынскага насельніцтва ў армію, размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі фронта, прыток для работы ў вайсковых майстэрнях рабочых з прамысловых цэнтраў Расіі) рэзка змянілі колькасныя суадносіны паміж этнічнымі групамі насельніцтва краю, удзельная вага беларусаў прыкмента зменшылася. Тым самым сацыяльная глеба для беларускага нацыянальнага руху стала падчас вайны больш хісткай. З другога боку, акупацыя заходняй часткі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі, устанаўленне там жорсткага рэжыму тэрору і грабяжоў выклікалі трывогу за лёс роднага краю, абуджалі нацыянальную самасвядомасць. Рост нацыянальнай самасвядомасці імкнулася выкарыстаць у сваіх класавых інтарэсах беларуская буржуазія (пераважна кулацтва і блізкая да яго шляхта), якая за гады вайны ўмацавалася эканамічна, у выніку чаго ўзраслі і яе палітычныя амбіцыі.

У лютым 1917 года ў Расіі перамагла буржуазна - дэмакратычная рэвалюцыя, ненавіснае народу самадзяржаўе было звергнута. У краіне ўстанавілася двоеўладдзе: своеасаблівае перапляценне дзвюх дыктатур — дыктатуры буржуазіі ў асобе Часовага ўрада і рэвалюцыйна - дэмакратычнай дыктатуры рабочага класа і сялянства ў асобе Саветаў. Двоеўладдзе не магло быць даўгавечным. VII (Красавіцкая) Усерасійская канферэнцыя бальшавікоў распрацавала план барацьбы за перарастанне буржуазна - дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную шляхам мірнага пераходу ўсёй улады ў рукі Саветаў. У ліку іншых важнейшых праблем канферэнцыя разгледзела і нацыянальнае пытанне. У прынятай рэзалюцыі за ўсімі нацыямі, што ўваходзілі ў склад Расіі, прызнавалася права на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

Шырокім масам не адразу стала зразумелай сацыялістычная перспектыва рэвалюцыі. Многія неспакушаныя ў палітыцы людзі яшчэ спадзяваліся, што вырашэнне ўсіх набалелых за доўгія гады царызму праблем зможа забяспечыць і Часовы ўрад, што ён дасць працоўным мір, хлеб і свабоду. З перамогай Лютаўскай рэвалюцыі нярускія народы краіны звязвалі таксама ажыццяўленне сваёй даўняй мары — нацыянальнага вызвалення.

У такіх абставінах у сакавіку 1917 года ў Мінску сабраўся так званы з'езд беларускіх дзеячаў, на якім меркавалася правесці свайго роду агляд сіл нацыянальнага руху і выпрацаваць праграму дзейнасці ў новых умовах. Сярод 150 дэлегатаў пераважалі літаратары, юрысты, настаўнікі. Большасць з іх прытрымлівалася даволі невыразных ліберальна - дэмакратычных поглядаў. Некалькі чалавек (А. Бурбіс, З. Жылуновіч, І. Кузьміцкі, А. Смоліч, В. Адамовіч і інш.) аб'явілі аб сваёй прыналежнасці да Беларускай сацыялістычнай грамады, якая паводле ленінскай ацэнкі, з'яўлялася дробнабуржуазнай нацыянальнай партыяй леванародніцкага кірунку.

Выпрацаваная з'ездам палітычная платформа зводзілася ў асноўным да дзвюх задач. Першая: дамагацца ад Часовага ўрада аўтаноміі Беларусі ў складзе федэратыўнай Расійскай рэспублікі. Другая: рабіць захады для развіцця нацыянальнай культуры (заснаваць на Беларусі універсітэт, пачаць перавод школ на беларускую мову навучання, арганізаваць у Мінску выданне беларускай газеты і г. д.). Бясспрэчна, гэта былі абгрунтаваныя намеры, у цэлым яны мелі дэмакратычную накіраванасць. Зададзімся пытаннем: ці павінны былі людзі, што спрабавалі выступаць ад імя ўсяго беларускага народа, дазволіць сабе абмежавацца толькі гэтымі задачамі? Існавалі ж і іншыя злабадзённыя і вострыя праблемы, якія ў той час куды больш моцна хвалявалі шырокія масы працоўных. Народ прагнуў спынення вайны, што цягнулася ўжо трэці год і прынесла яму незлічоныя беды. Беларускае сялянства пакутавала ад малазямелля. Харчовы крызіс у гарадах пагражаў перарасці ў голад, а спекулянты і буржуазныя дзялкі бессаромна нажываліся на нястачах. Аднак з'езд ухіліўся ад абмеркавання гэтых праблем, хаця ад іх вырашэння залежала ці не само фізічнае існаванне беларускай нацыі. Каму было выгадна іх замоўчванне? Наўрад ці можна сумнявацца, што ў непарушнасці сацыяльна - эканамічнага статус-кво былі зацікаўлены толькі маёмасныя класы — памешчыкі і буржуазія. І таму цалкам меў рацыю А. Чарвякоў, калі, ацэньваючы пазней вынікі «з'езда беларускіх дзеячоў», пісаў, што «гэта была звычайная буржуазна - дэмакратычная платформа з некаторым нацыянальным адценнем».

Для арганізацыі кіравання краем «у кантакце з Часовым расійскім урадам» з'езд выбраў выканаўчы орган — Беларускі нацыянальны камітэт. У лік яго 18 членаў увайшлі і тыя, каму былі блізкімі інтарэсы сялянства, гарадской беднаты, хто шчыра імкнуўся выказваць іх спадзяваннні: А. Бурбіс, Б. Тарашкевіч, З. Жылуновіч і інш. Але не яны вызначалі палітычную лінію БНК. Старшынёй камітэта стаў Р. Скірмунт — буйны памешчык, былы член Дзяржаўнай думы і Дзяржаўнага савета царскай Расіі, дзе зарэкамендаваў сябе заўзятым абаронцам памешчыцкай уласнасці на зямлю. Пасаду намесніка старшыні заняў П. Аляксюк—шляхціц, які таксама прытрымліваўся вельмі кансерватыўных поглядаў, да таго ж быў вядомы сваёй польскай арыентацыяй. Вялікім уплывам у камітэце карыстаўся ксёндз В. Гадлеўскі — прадстаўнік беларускага каталіцкага духавенства. Гэтыя людзі, выкарыстоўваючы кіруючае становішча ў БНК, а таксама тую акалічнасць, што найбольш левыя яго члены пражывалі ў той час далёка ад Мінска (А. Бурбіс, напрыклад, працаваў у Маскве, Б. Тарашкевіч і З. Жылуновіч — у Петраградзе), прыклалі намаганні, каб завербаваць у беларускі нацыянальны рух як мага больш сваіх аднадумцаў з ліку буйных землеўладальнікаў, стварыць на Беларусі магнацкую нацыяналістычную партыю і з яе дапамогай разлажыць гэты рух, звесці яго да ролі паслухмянага рычага ў руках памешчыцкай рэакцыі.

Класавая прырода БНК найбольш выразна праявілася ў рашэннях скліканага ім у красавіку 1917 года «краёвага сялянскага з'езда». Трэба сказаць, што дэлегаты гэтага з'езда ад сялян рэзка пратэставалі супраць страшэннай няроўнасці ў аграрных адносінах, асуджалі самавольства памешчыкаў і мясцовых улад, выказвалі гарачае імкненне пазбавіцца ад класавага прыгнечання шляхам ліквідацыі памешчыцкай уласнасці на зямлю. Аднак прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага камітэта, якія кіравалі з'ездам, карыстаючыся палітычнай нявопытнасцю большасці дэлегатаў, навязалі сваю палавінчатую рэзалюцыю. Вырашэнне аграрнага пытання яна аднесла да кампетэнцыі будучага Устаноўчага сходу. Да яго склікання, абвяшчала рэзалюцыя, «самаўпраўства недапушчальнае, і яму трэба процідзейнічаць».

Далёкая ад сапраўдных інтарэсаў сялянства лінія, якую вяло кіраўніцтва БНК, цалкам пазбаўляла яго аўтарытэту ў шырокіх народных масах, выклікала недавер да ўсіх абвяшчаемых ім лозунгаў. Застаўшыся без падтрымкі народа, камітэт не мог ажыццявіць нават тую абмежаваную праграму, што выпрацаваў сакавіцкі з'езд. Зварот да ўрада князя Львова з патрабаваннем даць Беларусі аўтаномію не меў станоўчых вынікаў. Прыкрываючыся размовамі аб быццам бы наступіўшай свабодзе, Часовы ўрад на самай справе не збіраўся вырашаць нацыянальнае пытанне, праводзіў вялікадзяржаўную палітыку рускіх памешчыкаў і буржуазіі. Ва ўрадавых колах ведалі аб палітычнай слабасці Беларускага нацыянальнага камітэта, і таму ўсе яго дамаганні былі праігнараваны.

Не здолеў камітэт процістаяць і даволі моцнаму ў той час вялікадзяржаўнаму засіллю на Беларусі, праваднікамі якога былі чыноўнікі дзяржаўнага апарату, мясцовыя арганізацыі кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, а таксама розныя групоўкі, што стаялі на пазіцыях так званага «заходнерусізму» — кансерватыўнага напрамку грамадска-палітычнай думкі, прыхільнікі якога адмаўлялі існаванне беларускай нацыі, лічылі Беларусь толькі геаграфічным рэгіёнам Расіі. Гэтыя сілы ўдала скарысталі часовую перавагу ў беларускім нацыянальным руху буржуазна - памешчыцкага крыла для таго, каб дыскрэдытаваць у вачах грамадскасці саму ідэю самавызначэння беларускага народа. У выніку на губернскіх сялянскіх з'ездах прадстаўнікі БНК не змаглі нават дабіцца згоды дэлегатаў на выкладанне ў школах краю беларускай мовы.

**Станіслаў РУДОВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**

*СТАРОННІМ ВОКАМ*

# РАЗУМНА ПРАДУМАНАЯ СІСТЭМА

**Больш месяца правяла на Радзіме актывіст прагрэсіўнай арганізацыі суайчыннікаў — Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі Любоў Маглава. Яна адпачывала і папраўляла здароўе ў санаторыі «Крыніца» пад Мінскам. Але гэта паездка ў Беларусь мела яшчэ адну мэту — больш даведацца пра перамены, якія адбываюцца цяпер у нашай краіне, пра тое, што думаюць аб іх савецкія людзі, зразумець сутнасць рэвалюцыйных пераўтварэнняў, што ажыццяўляюцца нашым народам, і затым расказаць пра гэта суайчыннікам у Бельгіі. Любоў Захараўна, даўні і пастаянны чытач «Голасу Радзімы», у час знаходжання ў Мінску не раз прыходзіла ў рэдакцыю. Мы думаем, што ўражанні зямлячкі аб паездцы на Радзіму, яе меркаванне аб перабудове ў краіне будуць цікавыя не толькі суайчыннікам у Бельгіі, і прапанавалі Любові Маглавай расказаць аб гэтым і таму друкуем яе артыкул на старонках нашай газеты. Запрашаем усіх жадаючых выказаць сваё меркаванне па закранутых у матэрыяле пытаннях.**

Дзякуючы запрашэнню Беларускага таварыства «Радзіма», мне прадставілася магчымасць зноў пабываць у Беларусі, адпачыць у санаторыі, сустрэцца з савецкімі людзьмі і з першых рук даведацца аб тым, што цяпер адбываецца ў краіне.

Яшчэ перад паездкай я паставіла сабе задачу: больш даведацца аб перабудове, сабраць разнастайны матэрыял аб новай унутранай палітыцы Савецкай дзяржавы, пераўтварэннях у эканоміцы і асвятліць усё гэта ў нашым замежным патрыятычным часопісе. Задача цяжкая, але пастараюся сама разабрацца ва ўсім незвычайным, што ўбачыла на Радзіме, і падзяліцца з маімі замежнымі суайчыннікамі. Маючы кантакт з простым народам, даведваешся аб усім самым праўдзівым. Гэта мой прынцыповы метад і на Радзіме, і за мяжой.

Апошнім часам вельмі ўзрасла цікавасць да нашай краіны з боку сусветнай грамадскасці. За перабудовай і дэмакратызацыяй усіх сфер жыцця савецкага народа з вялікай увагай сочым і мы, замежныя суайчыннікі. На міжнароднай арэне знешняя і ўнутраная палітыка СССР заваявала вялікі аўтарытэт, пацяплеў палітычны клімат. На XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі шырока абмяркоўвалася пытанне аб вырашэнні розных праблем савецкіх людзей.

Сацыялізм набывае сваё сапраўднае аблічча, знікае яго дэфармацыя, якая мела месца ў час застойнага перыяду. Савецкія людзі поўнасцю адабраюць намечаныя планы змен палітычнай і гаспадарчай сістэмы. Ламаюцца стэрэатыпы буржуазнай прапаганды, што сее варожасць і недавер да савецкіх людзей, аўтарытэт Савацкага Саюза ва ўсім свеце расце.

У капіталістычных краінах беспрацоўе, дарагоўля, працоўны народ плаціць вельмі вялікія падаткі. Будучыня нашых дзяцей і ўнукаў уяўляецца ў туманным святле. У Савецкім Саюзе гэтых праблем не існуе, але ёсць іншыя і таксама няпростыя. Дзякуючы палітыцы публічнасці, цяпер яны шырока абмяркоўваюцца і намячаюцца шляхі іх вырашэння.

Жыць у дастатку, шчасліва — гэта значыць жыць разумна, берагчы ўласны рубель і дзяржаўны. Безгаспадарчасць — гэта вялікая загана, і перабудова заклікана яе выкараніць. Мне вельмі спадабалася, што праз прэсу партыя і ўрад тлумачаць, што жыццёвы ўзровень залежыць не толькі ад дзяржавы, але і ад самога народа, ад кожнага чалавека.

Па плану перабудовы ўсе прадпрыемствы пяройдуць на гаспадарчы разлік і самафінансаванне, а гэта значыць, што прадпрыемства не будзе больш фінансавацца дзяржавай, як было раней, калі здаралася, што завод ці фабрыка замест прыбытку прыносілі страты і тармазілі эканоміку. Пры новай гаспадарчай структуры прадпрыемства ўсе расходы на вытворчасць будзе пакрываць з уласнага прыбытку. А калі яго не будзе, то прадпрыемства абанкруціцца і закрыецца.

Разумна прадуманая сістэма!

У сельскай гаспадарцы таксама адбываюцца вялікія змены. Уведзены арэндныя і сямейныя падрады на вёсцы, што дапаможа дзяржаве лепш забяспечыць насельніцтва прадуктамі.

Працуючы да вайны ў народным судзе, я з суддзёй і юрыстамі часта выязджала ў вёскі, і ў памяці засталася карціна сумнага стану калгасаў. І в[illegible] цяпер мне давялося нав[illegible] адну з такіх гаспадарак, ўбачыць сучасную вёску. Гэта быў калгас імя Войкава, недалёка ад Мінска. Ён не з самых багатых, але і не з бедных. Тут 4 500 гектараў зямлі, 4 500 галоў буйн[illegible] рагатай жывёлы, 2 000 с[illegible], 160 коней, 80 трактароў, 27 камбайнаў. Працуе 800 чалавек. Калгас прадае дзяржаве збожжавыя па таннай цане. Прадае прадукты і на рынку, дзе цэны вышэйшыя. За выручаныя грошы купляюць патрэбныя машыны, будуюць дамы для калгаснікаў. Акрамя таго, тут вырошчваюць звяроў (норку, пясца, лісіцу) і прадаюць пушніну. Прадаецца штогод 10 тысяч шкурак. Ад пушніны чысты прыбытак 1 мільён 700 тысяч у год. 300 тысяч рублёў у год ідзе на прэміі для калгаснікаў. Заработную плату калгаснікі атрымліваюць у залежнасці ад прыбытку і выпрацоўкі. Чым больш калгаснікамі зроблена, тым больш яны атрымліваюць зарплаты. На зарплату ідзе 2 мільёны рублёў. 400 тысяч трацяць на закупку тэхнікі.

Кожныя тры гады калгаснікі выбіраюць старшыню. Цяперашні на сваёй пасадзе знаходзіцца ўжо 17 год, гэта значыць, што ён вядзе гаспадарку ўзорна. У калгасе маецца свая школа, дзіцячы садзік. Мы наведалі яго. Вельмі вялікае, светлае, чыстае памяшканне, пабудаванае ў самым сучасным стылі, з вялікім камфортам. У садзіку 140 дзяцей. Амаль усе выдаткі па ўтрыманню дзяцей калгас бярэ на сябе. Для большасці бацькоў плата амаль сімвалічная — 12-15 рублёў у месяц. Ёсць такія, што не плацяць зусім.

Нагадаю чытачам адну заходнюю прапагандысцкую небыліцу. Перад ад'ездам на Радзіму мне расказалі, як адзін экстрэміст у маім сяле ў Бельгіі распаўсюджвае чуткі, што ў Савецкім Саюзе жнуць яшчэ сярпом, прычым жанчыны жнуць, а мужчыны ідуць ззаду і вострацьсярпы. І гэта на такіх палях, што канца ім не відаць.

Злуюць нашы ворагі, не ведаюць, як нас абылгаць. На самай жа справе даяркі doяць кароў машынамі, малако паступае па трубках у вялікія халадзільнікі. Даяркі атрымліваюць зарплату 280 рублёў у месяц, трактарысты 330-350 рублёў. Акрамя зарплаты, калгаснікам выдаюць прадукты. Прадае калгас зерне калгаснікам па 13 капеек за кілаграм. Зямельныя ўчасткі калгаснікаў апрацоўваюцца калгаснай тэхнікай. Вельмі здзівілася, убачыўшы ў калгасным цэнтры пральню з пральнымі аўтаматычнымі машынамі чэхаславацкай вытворчасці. Калгасніцы-працаўніцы вызвалены ад такой прымітыўнай працы, як мыццё бялізны. Побач з пральняй лазня, пакуль мыецца самастойна бялізна, можна ў лазні памыцца і папарыцца. Ёсць швейная майстэрня, дзе па заказу шыюць адзенне. У калгасе ёсць і свае ўрачы. На пенсію жанчыны ідуць у 55 год, мужчыны ў 60. У калгасе налічваецца 700 пенсіянераў. Сярэдняя пенсія калгаснікаў 120 рублёў у месяц.

Большасць калгаснікаў маюць уласныя дамы, астатнія арандуюць калгасныя, за 1 квадратны метр плацяць 10 капеек. Гэта складае 4 рублі 20 капеек у месяц. Калгаснікі не плацяць падаткаў. Маюць прысядзібныя зямельныя ўчасткі.

Вядзецца будаўніцтва новых ферм. Калгас перспектыўны, развіваецца. Уводзяцца ў практыку сямейныя падрады, якім калгас усебакова дапамагае. Узводзяцца гандлёвы цэнтр, новыя дамы для калгаснікаў. Ужо цяпер у дамах ёсць водаправод, ванныя пакоі. Тут жа таксама на поўную сілу запрацаваў прынцып гаспадарчага разліку і самакіравання. Клапоцяцца гаспадаркі і пра будучыя кадры. Моладзь пасылаюць вучыцца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, стыпендыі выплачвае калгас.

Удалося мне пабываць і на прамысловым прадпрыемстве. Гэта Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Ленін марыў мець 100 тысяч трактароў для сялян. У 1972 годзе мінскі завод выпусціў мільённы [illegible]рактар, а ў 1984 — ужо д[illegible]ільённы. Яго прадукцыя экспартуецца ў 74 краіны. Завод стаў адным з буйнейшых прадпрыемстваў Савецкага Саюза.

Адзначу, што, як і раней, дзяржа[illegible] ўдзяляе прамысловасці [illegible]большую ўвагу. І перабу[illegible]ва тут найбольш прыкметная. Завод сам цяпер вырашае, колькі сродкаў вылучыць на развіццё вытворчасці, на абнаўленне абсталявання, сацыяльныя фонды развіцця. Раней гэтыя пытанні вырашаліся ў міністэрствах. Цяпер прадпрыемства адлічвае ў даход дзяржавы строга пэўны працэнт прыбытку, а куды патраціць астатняе, вырашае сам калектыў.

Але вернемся да трактарнага завода. У сярэднім рабочыя тут зарабляюць 250 рублёў у месяц, а высокакваліфікаваныя 300-400 рублёў. Падаходны падатак складае ў сярэднім 10 працэнтаў ад заработку, а сацыяльнае забеспячэнне гарантуецца дзяржавай. У нас у Бельгіі на яго вылічваюць 35 працэнтаў, і ў канцы года плацім яшчэ даволі вялікі падатак.

На Мінскім трактарным заводзе створаны добрыя сацыяльна-бытавыя ўмовы для рабочых. Штогод заводам будуецца і ўводзіцца ў эксплуатацыю больш за 20 тысяч квадратных метраў жылой плошчы для рабочых. Прадпрыемства мае 30 дзіцячых дашкольных устаноў, разлічаных больш чым на 5,5 тысячы дзяцей. Завод выдзяляе вялікія сродкі для паляпшэння харчавання дзяцей, і бацькі плацяць значна менш, чым гэта каштуе на самай справе.

Штогод заводам выдаецца 7 тысяч пуцёвак у санаторыі, дамы адпачынку. Рабочыя аплачваюць 30 працэнтаў іх кошту, а 70 працэнтаў расходаў бярэ на сябе прафсаюз. Для моладзі, якая паступае працаваць на завод, пабудаваны 10 інтэрнатаў з усімі зручнасцямі на больш чым 5 тысяч месцаў. Пры заводзе знаходзіцца прафілакторый з кабінетамі фізіятэрапіі, масажу, зубаўрачэбным і іншымі. Штогод у ім атрымліваюць лячэнне 1 500 чалавек.

На Мінскім трактарным заводзе маецца стадыён на 25 тысяч месцаў, плавальны басейн, спартыўны клуб з пяццю заламі і спартыўныя пляцоўкі. Ёсць Палац культуры з тэатральнай залай на 900 і кіназалай на 250 месцаў.

Як бачыце, не ўсё так дрэнна ў нас на Радзіме, як аб гэтым гавораць у заходняй прэсе. Хочацца зрабіць папрок і савецкім газетам, якія публікуюць у асноўным крытычныя матэрыялы. Разумны чалавек разумее, што пра недахопы пішуць для таго, каб іх ведаць, каб з імі змагацца, але гэта не значыць, што нічога добрага няма. Дасягненні сацыялізму вялікія і неаспрэчныя.

Укараненне новай структуры, пераўтварэнні па ўсёй краіне, радыкальная рэформа эканомікі зоймуць некалькі год, але ўжо цяпер становяцца бачнымі рэальныя вынікі. Вядома, што ва ўсіх краінах, таксама і ў Савецкім Саюзе, цяжка змагацца з прывілеяванымі бюракратамі. Менавіта яны тармозяць развіццё краіны, клапоцяцца не аб інтарэсах народа, а аб сваіх асабістых. Пры перабудове палітычнай сістэмы аўтарытэт кіраўнікоў будзе вызначацца не іх званнем, пасадай, а справамі.

Нам, замежным суайчыннікам, лёс нашай Радзімы неабыякавы. Мы заўсёды абаранялі свой родны народ ад прапагандысцкай кампаніі нашых непрыяцеляў, ганарыліся ім.

Прайшоўшы цяжкі цярністы шлях, савецкі народ з вялікім энтузіязмам перабудоўвае сваё грамадства, верыць у перабудову.

Ад усяго сэрца жадаю, каб перабудова паставіла ўсё на сваё месца, каб выкараніла ўсё дрэннае і наладзілася нармальнае шчаслівае жыццё, за якое савецкі народ так многа змагаўся.

**Любоў МАГЛАВА.**



Полацк сёння. Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.

Эрнест ЯЛУГИН

# ПОСЛЕ НЕБЫТИЯ

## ОТРЫВКИ ИЗ ДОКУМЕНТАЛЬНОЙ ПОВЕСТИ

(Продолжение. Начало в №№ 32—36).

Иногда подобные авансы оставались и непогашенными. Жилунович относился к этому с пониманием. Вообще, будучи одно время начальником Главискусства комиссариата просвещения, он осуществил свой старый замысел — добился выплаты персональных стипендий более чем двадцати молодым писателям. В тогдашних-то условиях жесточайшей экономии.

В 1921 году к нему, тогда еще главному редактору газеты «Савецкая Беларусь», пришел в кабинет подросток с минской окраины, сын сапожника и прачки Андрей Александрович. Принес стихи. Узнав, что отец хлопчика год как умер, а мать воспитывает двоих детей и с трудом находит работу, Жилунович немедленно поинтересовался, что тот ел на обед. Узнав, что ничего, дал денег на булку. Потом разбирали стихи. А после, взглянув на босые ноги юного поэта, взял его за руку, повел в магазин и купил ботинки. Стихи Александровича, подредактировав собственноручно, опубликовал в газете. Еще через несколько лет произведения молодого поэта считали за честь печатать все республиканские издания. В начале же 30-х годов бывший хлопчик из минского предместья — уже известный белорусский поэт, член-корреспондент Академии наук БССР.

Годом раньше, в середине 1920-го, Жилунович так же поддержал еще неуверенно вступавшего на поэтическую стезю Михася Чарота...

«Я заметил, как крепкие рабочие руки Т. Гартного вздымаются крыльями, когда открывают рукопись,—свидетельствует не однажды наблюдавший, как трудится директор Белгосиздата, Заир Азгур. — Я улавливал светлую улыбку, которая тотчас появлялась в уголках его губ и в глазах, когда Змитер Федорович зачитывал вслух удачное место в рассказе молодого автора...»

Вот еще штрих примечательный. Несмотря на свою приверженность литературному объединению «Полымя», лидером которого он был, Жилунович-Гартный как директор Белгосиздата, по многим свидетельствам, особенно не подразделял авторов на «своих» и «чужих», когда те приносили рукописи в издательство. Он заботливо поддерживал и многих из тех, кто через несколько лет бросит в него камень...

В ноябре 1928 года Гартный готовился торжественно отметить 20-летие своей литературной работы, а также 40-летие жизни. Тогда же, оглядывая пройденный путь, он опубликовал очерк, который, как вскоре выяснилось, стал камнем, сдвинувшим на автора копившуюся перед тем грозную лавину.

Или просто так совпало?

### ЗА ЧЕРТОЙ

...Недалеко время, когда некомпетентные или нерадивые чиновники изобретут сильнейшее средство отвести критику от себя: любые свои промахи и головотяпство станут относить на счет вредительства скрытых агентов империализма и замаскировавшихся кулаков, по которым надо ударить беспощадно. И взойдет полынной звездой роковое слово «нацдем»...

Сначала гром громыхал в отдалении. В Москве и Ленинграде общественность разоблачала и громила правооппортунистических паникеров и капитулянтов. Потом те, как правило, публично признавали свои серьезные ошибки, а в республике срочно выискивались их последователи и периодическим изданиям вменялось оперативно организовать отклики трудящихся, клеймивших отступников.

Лидер «Маладняка» Платон Головач в повести прямо режет: для чиновников-де, у которых ожиревшие зады уже не вмещаются в руководящие кресла, революция — пройденный этап. Жилунович втайне обижается и за себя: он в последнее время располнел, меньше занимается самообразованием, все как-то некогда. Надо бы почаще бывать среди масс, выезжать к землякам, в Копыль, в самом деле меньше заседать.

Троцкизм Жилунович всегда отвергал, поэтому соглашается на публикацию клеймящих Троцкого материалов в журнале, разоблачает авантюриста во время собственных выступлений. За себя с этой стороны он не волновался. Никак не замешан.

Он ошибся: припомнили ему поощрение хозяйственного интереса. И его другу Червякову тоже. В том числе призыв к селянам «богатеть», который, оказывается, играл на руку кулачеству, недаром за это в Наркомземе уцепились противники массовой и немедленной коллективизации. По наркомземовцам «ударили» и начали их «вычищать» в массовом порядке. Заодно студентов-старшекурсников Горецкой сельскохозяйственной академии, которые, как выяснили комиссии по чистке, не избежали по молодости и идейной несознательности наркомземовской заразы нацдемократизма от хитрых «спецов».

ЦК партии и правительство республики стараются не дать пламени «вычисток» слишком распространяться. В газете «Савецкая Беларусь» появляется специальная статья о ходе чистки в 1928—1929 годах. В ней отмечается, что хорошая идея — «вычищать» с должностей за серьезные упущения в работе, халатность и злоупотребления положением извращаются, когда вместо этого изгоняют со службы «по мотивам социального происхождения и деятельности в прошлом».

Есть ли опасность, что ему, Жилуновичу, придется расплачиваться за свое активное «громадовство?» Теперь ему начинает мниться, что действительно мог чего-то и не совершать, не лезть на рожон, не вести себя так независимо. Они обсуждают эту тему с Червяковым. Живут в одном доме, дружат по-прежнему семьями, дети тоже растут вместе, и Александр Григорьевич — главный их опекун, у него талант воспитателя. Духовно поддерживает он и Жилуновича.

С горечью убедился Жилунович, что «инстанции», похоже, мало поверили в искренность его раскаяния. А может, просто ему [illegible]строили ловушку? Он же собственноручно подписал себе приговор! Вскоре появившаяся в газете «Савецкая Беларусь», которую уже не редактировал Михась Чарот, редакционная статья подтвердила его самые худшие подозрения.

«В своем заявлении Д. Жилунович признает свои национал-демократические ошибки,— прыгали перед его воспаленными от хронической бессонницы глазами газетные строки. — Заявление... это банкротство национал-демократических элементов... На протяжении некоторого времени Д. Жилунович был одним из главных идеологов национал-демократического уклона...»

Так даже? Это он-то, который честно и добросовестно стремился выполнять все указания ЦК! — с горечью размышлял Жилунович. «Заявление т. Жилуновича является одним из сильнейших ударов по западно-белорусскому национал-фашизму...» А его-то личная судьба как же? Ага, вот оно: «Сам т. Жилунович не на словах, а на деле должен доказать, что он стал на путь партии. Только активной борьбой с национал-демократизмом, с разными враждебными идеологиями, борьбой за линию партии т. Жилунович восстановит доверие рабочих масс...»

Ему все-таки дают шанс, называют «товарищем», значит, еще доверяют. Да он же всегда боролся с буржуазным национал-фашизмом, поэтому там, за кордоном, и стараются его покрепче замарать, когда печалятся, что Жилунович-де подвергается гонениям со стороны своих российских друзей. Коварный умысел! Ну, так и он же будет бить по ним изо всех сил.

Тем не менее и свои его по-прежнему не оставляют в покое. Это почти неизбежность: если в газете появляется статья о нацдеме, там обязательно упомянут его имя.

Досталось за него и Червякову. И тот, когда пришел черед ему тоже публично каяться в грехах, не мог обойти имя Жилуновича.

Прежде всего Жилунович, как и обещал в покаянном заявлении, пошел на выучку к рабочему классу — почти ежедневно бывал на заводе «Коммунар» (ныне станкостроительный завод имени Кирова). Он беседовал с рабочими, изучая условия их труда и быта, помогал выпускать многотиражную газету, выступал на литературных вечерах, писал оперативные очерки о заводских мастерах, из которых получилась затем книга «Наступление на горны». В ней, как отмечает критик Вл. Юревич, хорошо ощущается «дыхание того времени». Автор стремится показать, как труд на заводе дает рабочему не только возможность заработать кусок хлеба, но и проявить свою гражданскую суть, учит товариществу, чувству взаимопомощи, ответственности за общее дело, учит социализму. Правда, Жилунович как бы с опаской, мимоходом говорит о нерешенных проблемах, неурядицах, о том, откуда брались «отстающие рабочие», которые почему-то «злоупотребляли браком, недосмотром, болезнями(?), опозданиями». Почему нужен был «известный штурмовой месяц» осенью 1930 года, после чего «лучшие ударники были награждены премией — месячным курортом» за счет завода. Какая-то внутренняя натужность, недоговоренность ощущается даже там, где автор воздает хвалу заводчанам. Если читать эти фразы вслух, похоже на речь человека, которому спазмы то и дело перехватывают горло.

На литературных вечерах он делился творческими планами: собирается к двадцатой годовщине БССР написать роман о заводе. Первая часть (или, как он любил выражаться,— «квадра») — о жизни и труде рабочих, о заводской парторганизации, о научной организации труда и изобретателях. А во второй — о связи завода с деревней и о помощи сельчанам в организации колхозов. У него был уже план-сценарий будущего романа, расписаны герои с краткими характеристиками. Только сесть и разворачивать эти наброски в главы...

Критики же продолжали требовать от него новых покаянных выступлений. Иной раз, правда, «хвалили» — когда упрекали Купалу, который все не спешил следовать примеру Коласа и Гартного и мог навлечь на себя серьезную пролетарскую кару.

Вдруг ошарашивающая весть: Купала, вернувшись из отдела ГПУ, совершил попытку самоубийства. С ножевой раной в области печени в тяжелом состоянии доставлен в больницу. Неделя ожидания, пока врачи боролись за жизнь поэта, показалась кошмарной вечностью. Жилунович глубоко и преданно любил этого человека, не переставал восхищаться его талантливостью. Наконец обнадеживающие вести, его допускают в больницу. Вместе в Игнатовским уговаривают находившегося в глубокой душевной депрессии Купалу: надо жить, он — надежда народа. Едва выписавшись, Купала предпринимает хлопоты, чтоб не арестовали «старого» Эпимах-Шипилло. Тот уезжает в Ленинград, и поэт находится на перроне рядом, провожая и охраняя. И отдавая последнюю дань всему возвышенному и волнующему, чем одарила его судьба в дни петербургской юности.

Развернув 14 декабря 1930 года «Звезду», Жилунович не может не признаться себе, что вместе с горечью испытывает тайное облегчение, увидев там «покаянное» письмо Купалы.

Почти теми же словами, что и Купала, пишет он о вредительской роли Института белорусской культуры. Терминологическую комиссию обвиняют: белорусским литературным языком она признала не тот, которым пользовались простые народные массы, а язык шляхты «кулацких районов бывшего Менского повета».

Снова и снова говорит он о своем прозрении и раскаянии. Ничто не помогает. Начинается новая волна «чисток» в Академии наук. Во время его собственной «чистки» (третьей по счету) в клубе собралось полно народу. В задних рядах он еле различает силуэты съежившихся дочери и жены. Ведь просил же не приходить! Вопросы председатель комиссии задает жестко, и Жилунович предчувствует: на этот раз пощады не будет. На столе кипа вырезок — статьи против него. Он видит в зале много сочувствующих глаз, но теперь уж не находится никого, кто пожелал бы выступить в его защиту. Он старается отвечать с достоинством.

Правда ли, что у него жена из дворянок? Осознал ли свои ошибки?.. Наконец вопрос, который, по свидетельству очевидцев, все и решил: почему он не написал ни одного стихотворения о товарище Сталине? Он отвечает: не созрел, чтоб писать о таком человеке.

Члены комиссии понимающе переглядываются...

Приговор: «Вычищен»...

В ту ночь он впервые за многие годы закурил, хотя не баловался этим с юности. А так в его поведении вроде ничто не изменилось. Только стал больше возиться с сыном. Обсуждал с ним коллекционные марки, играл в «жмурки», возил вокруг стола на спине. Словно пытался впрок, на годы вперед дать мальчику отцовской ласки.

И в семье ничего будто не изменилось. Правда, все вдруг начали по вечерам, когда в зале еще не включено освещение, пугаться бюста Кастуся Калиновского. Красивый бронзовый бюст на высокой мраморной подставке высился у входа в гостиную. Его подарил молодой скульптор Заир Азгур, который знал пристрастие Жилуновича к вождю белорусских повстанцев. Жилунович не раз хвастался подарком перед гостями. Теперь он передвинул бюст в свой кабинет и поставил прямо за креслом. Работая, время от времени откидывался назад и тогда чувствовал твердь бюста Калиновского разгоряченным затылком. Домашние, изредка заглядывая к нему в кабинет, по-прежнему бюста пугались. Особенно жена. Открывает дверь в кабинет — а мужа не видно, его заслоняет глыба мрамора и бронзы. Но расстаться с бюстом Змитер Федорович не мог.

В квартире стало вдруг непривычно просторно. Гости почти не заглядывали. Разве что заходил на огонек Купала. Вскоре Жилуновичу управдом вообще предложил перебраться на Московскую улицу, в квартирку попроще, хотя Змитер Федорович по-прежнему оставался членом ЦИК СССР и входил в правительство республики. Он воспринял перемены без видимого огорчения. Наоборот, даже вроде спокойнее стало на душе. Не надо встречаться с Червяковым, вообще с начальством.

По свидетельству современников, в нем совсем исчезла недавняя напряженность, которую незнакомые иной раз принимали за чванливость и высокомерие барина из «новых». «И тут я с радостью убедился,— пишет о тех днях Ян Скрыган, — что Гартный такой же простой и непосредственный, как и все мы... «Что случилось? — спрашивал я у самого себя. — Или я человека действительно не знал и не видел, каков он в себе, или... Неужели простота оживает только после того, как опасность заслонит славу?»

Вспоминают также, что Жилунович больше прежнего стремился бывать на людях. Если представлялась возможность, шел в Дом литератора с детьми обедать. Дом литератора находился примерно там, где ныне на углу Комсомольской и Ленинского проспекта расположено кафе «Весна». Тут любили собираться не только профессиональные литераторы, чтобы «прикоснуться душой к душе», но наведывались журналисты и толклось много окололитературной молодежи. Разговоры о книгах, о театральных постановках, горячась—о том, действительно ли принесет пользу объединение всех в один писательский союз: не начнется ли нивелировка вкусов, обюрокрачивание, казарма. Опасаются, что верх возьмут лидеры Белаппа. Пока же существуют и другие литературные группы и объединения, хотя их активность заметно поубавилась. Это и имеет в виду Жилунович, когда, проходя мимо недавних азартных «узвышенцев» Змитрока Бядули, Кузьмы Чорного и Петруся Глебки, здоровается и тут же пускает шпильку: «Ну, как поживает ваша высота? (намек на название литературной группировки — «Узвышша»). Не облысела ненароком?»

«Узвышенцы» тоже не лезут за словом в карман. Иронично щурясь, отвечает Змитрок Бядуля: «А ваше «Полымя» все еще полыхает?»

Перекинувшись словом-другим со знакомыми, Жилунович спускается с детьми в столовку, которая размещалась в цокольном этаже, серьезно, как с равными, обсуждает с ними меню. Дети, это отмечается всеми, очень походили на Змитра Федоровича. Особенно Олег. Мальчик рос развитой, знал наизусть много стихов, хорошо рисовал, играл в шахматы. Отец очень гордился сыном. Как и дочкой Галей, которая неплохо говорила по-немецки и готовилась поступать в медицинский институт.

Бывая на заводах, он всегда обращал внимание на то, как там соблюдают порядок, трудовую дисциплину. Станислав Шушкевич, в ту пору еще молодой поэт, вспоминает, как они с Гартным и поэтом Валерием Моряковым вместе выступали на кожевенном заводе «Большевик».

(Окончание следует).

## МАЛАВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ДАЎНІНЫ

# ВОЙШАЛК, СЫН МІНДОЎГА

«Князь Навагрудскі» — назва гістарычнай п'есы, якая пастаўлена І. Пятроўскім на сцэне Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. Спектакль ідзе з поспехам ужо паўгода. Глядзельная зала звычайна поўная — відавочную цікавасць праяўляюць гараджане да сваёй даўніны.

Зараз, падчас агульнага ўздыму ўвагі да гісторыі, усё часцей выяўляецца: у ёй ёсць невядомыя шырокаму колу людзей старонкі, «белыя плямы». Іншыя з гэтых старонак узнікае патрэба перапісаць нанава, выправіўшы тым самым памылковыя меркаванні. Бо гістарычная навука сёння не стаіць на месцы. Не застаюцца ў баку ад гэтай працы пісьменнікі і драматургі.

Менавіта з новых пазіцый напісана Л. Пракопчыкам і Д. Кальчанкай і п'еса «Князь Навагрудскі». Доўгі час гісторыкі не маглі пагадзіцца, дзе ўсё ж такі была гістарычная Літва. Апошнія даныя атаясамліваюць яе з цяперашняй Навагрудчынай і яе наваколлем. Такім чынам, гэта пераважна была славянская дзяржава. Нездарма вуснамі герояў п'есы яна завецца Руссю Літоўскай, а па-сённяшняму гэта будзе — Беларусь.

З першых хвілін узняцця заслоны глядач апынаецца ў атмасферы паганскага свята — Купалля. Беларусы пранеслі яго традыцыю скрозь усю сваю шматвяковую гісторыю, і, паступова страціўшы першасную рэлігійную афарбоўку, яно стала відовішчным народным гульбішчам. На сцэне карагод дзяўчат і дзецюкоў. Гэта малады князь Навагрудскі Войшалк (акцёр В. Мірны), сын Міндоўга, святкуе з сябрамі і сваёй каханай — Рутай разам і Купалле, і свой дзень нараджэння.

Далей дзея рушыцца досыць жвава. У доме баярына Васіяна (бацькі Руты), набліжанага да вялікага князя Міндоўга, з'яўляюцца паслы. Адзін ад князя Галіцкага, другі — мніх Зіберт, ад магістра Тэўтонскага ордэна. Яны спрабуюць пры дапамозе баярына дамагчыся адной мэты — саюза з магутным Міндоўгам. Але з'яўляецца Войшалк і тасуе «карты».

У п'есе, апроч любоўнай абмоўкі, аўтары вырашалі яшчэ колькі сюжэтных задач. Адна з іх — стварэнне вобраза дзяржаўнага ўладара таго часу. Міндоўг (В. Шакала), заснавальнік гістарычнае Літвы, паказаны такім, якім ён захаваўся ў гісторыі: цэласнай натурай, моцнай асобаю, якая ясна ўсведамляе сваю мэту і настойліва ідзе да яе, не зважаючы ані на якія перашкоды. Пры стварэнні адзінай моцнай феадальнай дзяржавы прыдатным быў усякі спосаб: пачынаючы ад чэснай перамогі ў баі, выкарыстання сваяцкіх сувязей і заключэння дамоўленасцей з суседзямі да каварных забойстваў, атручванняў, змоў. Гэтакім быў той далёкі час, і ягоны дух адчуваецца ў спектаклі.

Бадай, менш пераканаўчым здаецца напачатку Войшалк (Э. Мурашоў). Зрэшты, трактоўка гэтага характару цалкам можа тлумачыцца рэзкімі паваротамі ў ягоным лёсе. Вярнуўшыся праз гады на бацькаўшчыну — на Літву, ён узмужнеў, зведаўшы жыццё, але, скораны выпрабаваннямі, стаў набожным. «Правіцелем і манахам» адначасова называе яго князь Галіцкі Леў Данілавіч. Ён то прымусова бязлітасны, то набожны, то на троне, то ў манастыры або паломніцтве да святых месцаў. Такі тып побач з людзьмі, падобнымі да Міндоўга, быў таксама распаўсюджаны ў сярэднявеччы.

Закранута і тэма вострай на той час барацьбы хрысціянства з паганствам, якой прасякнуты адносіны персанажаў. Пры гэтым стаўленне Міндоў[illegible]а рэлігіі не больш як да прыла[illegible] палітыкі досыць уласцівае для Беларусі тых гадоў. Сын ашмянскіх пушчаў, ён быў паганцам, але, запрошаны на княжанне ў Навагародак, мусіў хрысціцца ў праваслаўе. Пазней, пільна патрабуючы моцнага саюзніка — Тэўтонскі ор[illegible] Міндоўг прыняў ад папы ка[illegible] і рымскую веру, пасля чаго Навагародак часова зрабіўся сталіцай каралеўства. Але потым кароль адпрэчыў «лацінскую» веру, а тады і зусім выгнаў з Літвы ўсялякіх манахаў. А пахаваны ён быў паводле паганскага абраду — у кургане, які і дагэтуль у Навагрудку завецца гарой Міндоўга.

Побач з найбольш поўна абмаляванымі героямі «Князя Навагрудскага» сынам і бацькам — Войшалкам ды Міндоўгам запамінаецца і самая кволая і безабаронная сярод персанажаў Рута (артыстка С. Літвінёнак). Яна палоніць гледачоў, бадай, болей за іншых. І ў нашай душы застаецца лёгкі сум ад створанага актрысай чыстага вобраза. І адданасць у каханні, і трагічны лёс, які выпадае ёй, усё гэта — у традыцыі беларускіх паданняў, вытокі якіх сягаюць у сівую даўніну.

Рута гіне ад рук паганскіх святароў у пушчы ля капішча Перуна. Гіне яна са згоды Міндоўга, каторы не жадаў шлюбу, праз які ягоны сын меўся адмовіцца ад улады, ад усяго, што бацька марыў яму пакінуць у спадчыну. Сцэна шабаша, учыненага служкамі культу Перуна, адна з найлепш пастаўленых у спектаклі. Яна моцна ўражвае, хоць падсвядома разумееш, што дзікунскі шабаш — не больш як мастацкі сродак. Хрысціянства было моцным ад паганства сваёй кніжнасцю, вучонасцю. Але любая рэлігія ў наступнай гісторыі Беларусі, ды і не толькі яе, заваёўвала сэрцы людзей агнём і мячом. Ды гэта ўжо па-за творам.

У заключнай сцэне, якой аўтары надавалі сімвалічны сэнс, Войшалк, які памірае ад смяротнае раны, заклікае землякоў пакінуць варожасць, ахоўваць незалежнасць дзяржавы, «ды запануе ў гэтым свеце мір!» — выгуквае ён...

Нам, праўда, вядома, што смерць спаткала Войшалка не ў Навагрудку і крыху пры іншых, чым у спектаклі, абставіна[illegible] а баляванні ў хмяльным чадзе [illegible]нязь Леў забіў яго мячом. Але аўтары палічылі, што гісторыі, вытрыманай у рамантычным духу, такі зыход не да патрэбы. І з іх задумай можна пагадзіцца.

На наш погляд, аўтара[illegible] большага ўдалося досыць праў[illegible] а рэканструяваць з летапісных паведамленняў адзіны ланцуг падзей, напоўніць жыццём тканіну апавядання, прымусіць героя кахаць і пакутаваць, дамагчыся таго, каб глядач даў веры ўбачанаму.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Васіль ЗУЁНАК**

### КУПАЛЬСКАЯ НОЧ ЛЯ ВОЗЕРА

**Вось недзе за гэтым, а можа, за тым
Ядлоўцавым знакам — імшара,
Дзе папараць-кветка агнём залатым
Закрэсліць зямныя ўсе чары.
І высвеціць тое, чаго не было,
Няма і, магчыма, не будзе...
Душа, нібы птушка, ляціць у сіло,
А ногі чапляюцца ў хлудзе...
І раптам таемна зірне глыбіня —
Люстэрка ў альховай аздобе,
Касмічным адбіткам стаіць цішыня,
І крок — землятрусу падобен.
Спыніся!.. Шукальнік агнёў залатых,
Замры і паслухай купалле —
Той голас, што мы пасадзілі ў драты
І ў дол дыскатэк затапталі...
Схаваўся ён тут! Не—спрадвеку жыве,—
Ён толькі ад нас адвярнуўся.
Ты чуеш — дыханне прайшло па траве...
Як звон — цішыня Беларусі...
На беразе корч — толькі ша! — не суроч —
Ад песні сваёй салавее,
І з неба азёрнага свецяць у ноч,
Як белыя зоркі, лілеі.**

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

### ЧАС СЯЙВА

**Адвявайце семя ад паловы,
Сейце дружна — цёплая ралля.
Скажуцца нясказаныя словы,
Кінутыя ўчора на пасля.**

**Іх бруіста вызваняць крыніцы,
Вышапчуць камлістыя лясы.
На зямлі, у водсвеце дзянніцы,
Нашых душ зліюцца галасы.**

**Шмат палёў засеяна як трэба
На зары са шчырае рукі.
Па-над імі палавее неба
І пяюць світальна жаўрукі.**

**Гасне змрок — пануры і пахілы,
Праз жарству праклюнецца трава.
На зямлі, дзе прадзедаў магілы,
Пераемнасць духу —
Час сяйва.**

**У падсудных пойдзе век суровы.
Судны век спытае:
— Як жылі!!
Адвявайце семя ад паловы.
Сеяць нам на ранішняй зямлі.**

**Алесь КАСКО**

### РОДНАСЦЬ

**Спасцігаю сэнс і шлях
тых залётных аблачынак,
што плывуць па-над вачыма,
ружавеюць на вятрах.**

**Іх выток і вырай тут...
Над засмужаным абшарам
ім рабіцца шчодрай хмарай,
у адзін збірацца гурт.**

**І пральюцца кроплі іх
на бязмежнасць траў і лёну,
на мой позірк, на далоні,
што вітаюць гэты міг.**

**Толькі міг — і ўжо няма
ані воблачка ў нябёсах,
ды паўсюль успыхнуць росы,
заблакітнее туман.**

**І аднойчы ў дымцы той
вы заўважыце, як ценем
зноў чыясь душа ўзляцела
па-над роднаю зямлёй.**

**У сусвет не адплыве —
воблачкам кружыцца стане.
І паверыць у вяртанне
той, у кім любоў жыве.**

**Вячаслаў СТОМА**

### РОДНАЯ ВЁСКА

**Мне ніколі ў жыцці пра цябе не забыцца.
Ты ж у сэрцы маім і сягодня пяеш,
І стаіш прад вачамі бурштынам суніцы,
І пяшчотнай бацькоўскай жальбой абдаеш.
Хто яна, што бязмоўнымі гукамі кліча,
Што ўспамінамі сілы мне ўраз надае!...
Гэта родная вёска мая Несутычы,
Што спакою ніколі ў жыцці не дае.
Мне і сёння так хочацца посвітным ранкам
Выйсці ў поле на ўзгорак за хатай старой,
Каб раней за усіх на замшэлым світанку
Акрапіцца сцюдзёнай расой.
І хоць часта спатканнем цябе не пястую,
Можа ў тры, ці ў чатыры гады адзін раз,
Не крыўдуй на мяне за няўдзячнасць такую,
Прад табою нясу я адказ.
Ты са мною у кожным сур'ёзным учынку,
Я звяраю ўсе крокі з адзнакай тваёй.
Ты, як сімвал святога, пяшчотнага, чыстага,
Ты крупінка вялікай Айчыны маёй.**

## НА МОВАХ СВЕТУ

### БАЛГАРЫЯ

Плоўдзіўскае выдавецтва «Хрысто Г. Данов» нядаўна выпусціла кнігу прозы Алеся Жука «Не забывай мяне», у якую ўключаны аднайменная аповесць і аповесць «Паляванне на апошняга Жураўля». На балгарскую мову абодва творы пераклала Пенка Кынева. У кароткім пасляслоўі «Пра аўтара» перакладчыца піша: «У творчасці Алеся Жука пераважаюць матывы, характэрныя для сучаснай прозы ў СССР. Гэта перш за ўсё вострая трывога пра захаванне маральных ідэалаў, глыбокія народныя карані якіх пасечаны дынамізмам часу, міграцыяй сяла ў горад. Пісьменнік імкнецца абудзіць сумленне ўсіх, выклікаць у чытача пачуццё непрымірымасці да няпраўды і памылак, якія сустракаюцца ў наш бурны час. Ён абвяшчае абыякавасць, раўнадушша да чалавека, да прыроды, да лёсу сусвету сваімі ворагамі і ў кожным сваім творы вядзе нястомную барацьбу з імі. Алесь Жук заклікае да маральнага максімалізму, таму што толькі з верай у дабрыню і ў чысціню справядлівасці чалавецтва можа пабудаваць сваю будучыню».

### ПОЛЬШЧА

«Золак, убачаны здалёк», створаны беларускім пісьменнікам Янкам Брылём, — гэта захапляючае апісанне дзяцінства, убачанага з перспектывы сталага чалавека, як рэчаіснасць далёкая, але ўсё яшчэ жывая. Поўны задумы рэфлексійны погляд пісьменніка прыдае штодзённым здарэнням нібы іншае вымярэнне. Духоўны свет дзіцяці, сталенне, фарміраванне асобы Янка Брыль суадносіць з вопытам сённяшняга дня, дабіваючыся такім шляхам паглыбленай перспектывы апавядання», — так ацэньваецца аповесць беларускага празаіка ў анатацыі да асобнага выдання на польскай мове. Твор выпусціла «Выдавніцтво літэрацке», з беларускай мовы пераклала Ганна Сабецка.

### РУМЫНІЯ

Раман «Знаходжанне надзеі» Міхася Герчыка расказвае пра будні навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Яго супрацоўнікі: вучоныя, дактары, даследчыкі—аддаюць усе свае сілы, веды і вопыт барацьбе з цяжкай хваробай. Яны шукаюць, эксперыментуюць, перамагаюць і церпяць паражэнне, пракладваючы шляхі ў нязнанае. Іхнія лёсы непарыўна звязаны з лёсам людзей, якія чакаюць дапамогі, знаходзяць надзею на вяртанне ў жыццё.

Твор зацікавіў бухарэсцкае выдавецтва «Унівэрс», якое выпусціла яго асобным выданнем у перакладзе на румынскую мову Іны Крыстэа.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**







# ВАЛЬС СЭРЦА



Нікога ў Беларусі не здзівіш мелодыямі жалейкі, дуды, беларускай ліры і нават сурмы. Гучаць яны ў гарадах і вёсках на фальклорных святах у выкананні аматараў народнага мастацтва. Нямала ў нас выдатных выканаўцаў, ёсць і музычныя майстры, таленавітыя рукі якіх не даюць змялець народнай музычнай крыніцы.



Але ж чаму змоўклі на нашай зямлі гуслі? Няўжо толькі ва ўспамінах, легендах ды паданнях захавалася памяць аб іх?

**Як зайгралі, загудзелі**
**Гуслі-самаграі,**
**Паняслiся, паляцелі**
**Песні па ўсім краі.**

Купалаўскія радкі не давалі спакою... І раптам даведваюся: жыве на Маладзечаншчыне гусляр.

Сонечным ранкам разам з вядомым музычным майстрам Уладзімірам Пузынем мы бадзёра крочым па шашы ад станцыі Уша да Відзеўшчыны. Пагорак змяняецца пагоркам. Дарога, нібыта не даючы стаміцца, раскр... ўсё новыя і новыя краявіды. ... Зідзеўшчыны нацянькі, праз лес выйшлі да вёскі з каларытнай назвай Уланаўшчына. Мясцовыя жыхары дапамаглі выйсці на сцежку, якая і прывяла да мэты нашага падарожжа — хутара Сакаўшчына. Менаві... тут і жыве 86-гадовы музыка М... Такушэвіч разам з жонкай Ксеніяй Восіпаўнай.

Старая хата (яе паставіў яшчэ бацька гаспадара) ды пахілая пуня хаваюцца пад купай старых дрэў. Невялікі агарод, сенажаць з духмяным сенам — вось і ўся гаспадарка. Усё жыццё гэтых людзей прайшло тут. Толькі аднойчы Максім Пятровіч пакінуў сваю хату, каб прайсці ў баях з фашыстамі да Мараўскай Астравы, што ў Чэхаславакіі. Тут і быў ён восьмы раз паранены і перамогу сустрэў у шпіталі. А потым была праца — штодзённая, цяжкая. З малых год ад бацькі свайго пераняў хлопец майстэрства сталяра, каваля, навучыўся рабіць плугі, ...ы, мэблю, абутак, гнуць дугі... ... дзіва, што ў пятнаццацігадовым узросце, толькі ўбачыўшы ў аднавяскоўца гуслі, вырашыў зрабіць свой інструмент.

Потым былі новыя і новыя гуслі, цымбалы, скрыпкі, пошукі дрэва, якое лепш за ўсё гучыць. Ён ...эўнены, што гэта асіна і елка («Я ...рэву — прафесар...»). А колькі разоў змяняў канструкцыю інструмента, каб гук не «выбіваў». І здолеў атрымаць чыстае, высокай якасці гучанне. Адначасова і выканаўчага майстэрства дасягнуў. Кадрылі, полькі, вальсы і нават марш навучыўся іграць. Да кожнай мелодыі ў Максіма Пятровіча свае адносіны. З уласцівым яму гумарам адну з полек называе «Вырві вока», другую — «Драбней маку», а «Яблычка» і падобныя да яго мелодыі — «дрындушкамі». Нарадзіліся гэтыя назвы ў час вяселляў, куды запрашалі Такушэвіча, як адмысловага музыку. Але ж да адной мелодыі ён ставіцца з выключнай павагай. Гэта «Вальс сэрца», які, па словах Максіма Пятровіча, ён сам прыдумаў.

Вось і зараз, прысеўшы на шырокую лаву пад старой бярозай (мабыць яго аднагодка), Максім Пятровіч асцярожна кладзе свае вялікія, напрацаваныя рукі на гуслі, і нараджаецца дзіўны гук. Не, не выпадкова назваў ён гэту музыку «Вальс сэрца». Павольная мелодыя здзіўляе сваёй урачыстасцю. Яна, здаецца, запаўняе кожны куток сядзібы, выліваецца ў поле, адгукаецца ў лесе.

А я слухаю з пачуццём гонару за самабытны талент гусляра. Аднак сумна робіцца ад думкі, што ў Максіма Пятровіча няма паслядоўнікаў.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: два музыканты — М. ТАКУШЭВІЧ і У. ПУЗЫНЯ; на сенакосе; нямала спраў па гаспадарцы ў жонкі Максіма Такушэвіча Ксеніі Восіпаўны; гаспадар хутара ў сваёй майстэрні.**




Стартаваў чарговы розыгрыш еўрапейскіх Кубкаў па футболу. У нас ён выклікаў асаблівую цікавасць: адразу шэсць савецкіх каманд уступілі ў барацьбу за ганаровыя прызы. Сярод прэтэндэнтаў на адзін з іх і мінскае «Дынама». Яно ўдзельнічае ў розыгрышы Кубка УЕФА.

Беларускія футбалісты гулялі на выездзе. На старце іх сапернікам была каманда «Тракія» (Плоўдзіў, Балгарыя). Гульня склалася для мінчан вельмі ўдала. Спачатку Георгій Кандрацьеў, а пасля Сяргей Гоцманаў забілі два мячы ў вароты балгарскай каманды. І толькі ў канцы гульні гаспадары правялі адзін мяч у адказ з пенальці.

Іншыя савецкія клубы выступілі так: маскоўскі «Спартак» у кубку чэмпіёнаў перамог «Глентаран» (Паўночная Ірландыя) — 2:0, вільнюскі «Жальгірыс» у Кубку УЕФА з такім лікам нанёс паражэнне «Аўстрыі» (Аўстрыя), днепрапятроўскі «Днепр» і «Бардо» (Францыя) згулялі ўнічыю — 1:1, а маскоўскія тарпедаўцы ўступілі шведскай камандзе «Мальмэ» — 0:2. У першым матчы ў розыгрышы Кубка Кубкаў на выездзе харкаўскі «Металіст» прайграў футбалістам югаслаўскай каманды «Борац» — 0:2.

Гульні ў адказ адбудуцца 5 кастрычніка.

Яшчэ аб футболе. У Беларусі гасціла спартыўная дэлегацыя з французскага дэпартамента Круа. У праграме знаходжання яе былі таварыскія сустрэчы па футболу. Так, госці гулялі з ветэранамі мінскага «Дынама» і спартсменамі з Мар'інай Горкі. Сустрэчы завяршыліся перамогамі беларускіх спартсменаў — 3:2 і 4:1 адпаведна.

Як вядома, зборная каманда нашай краіны заваявала другое месца на чэмпіянаце Еўропы па футболу. Спорткамітэт СССР адзначыў групу спартсменаў узнагародамі. Паўабаронцу мінскага «Дынама» Сяргею Алейнікаву прысвоена званне «Заслужаны майстар спорту СССР». Да яго ў рэспубліцы такое званне меў толькі адзін футбаліст — цяперашні настаўнік дынамаўцаў Эдуард Малафееў.

У гэтыя дні ў Ялце праходзіў матч за званне чэмпіёнкі свету па міжнародных шашках паміж харкаўчанкай Вольгай Левінай і мінчанкай Зояй Садоўскай. Перамагла Зоя Садоўская.

Будучыя алімпійцы праводзяць апошнія спаборніцтвы перад Гульнямі ў Сеуле. Савецкія майстры веславання на байдарках і каноэ на міжнароднай рэгаце ў Капенгагене заваявалі чатыры залатыя, тры сярэбраныя і пяць бронзавых медалёў. Вызначыліся тут і беларускія весляры. Віктар Ранейскі з Бабруйска ў пары з кішынёўцам Мікалаем Жураўскім былі мацнейшымі на дыстанцыях 500 і 1 000 метраў. Гамяльчанін Віктар Пусеў і Надзея Кавалевіч са Скідаля заваявалі сярэбраныя ўзнагароды.

Пачалося першынство краіны па хакею. Мінскае «Дынама» ў першай сустрэчы дамаглося перамогі над аднаклубнікамі з Харкава — 7:1.

У гэтыя дні пачынаюцца Алімпійскія гульні ў Сеуле. Вялікае прадстаўніцтва на іх у зборнай камандзе СССР беларускіх спартсменаў. Так што будзем чакаць добрых вестак.

## ШТО МОГУЦЬ УМЕЛЬЦЫ

Шаснаццаць год назад аматары ствараць прыродныя формы аб'ядналіся ў секцыю «Прырода і творчасць». Сярод іх — народная артыстка СССР Стафанія Станюта. Яна робіць кашпо, мастацкія кампазіцыі, але больш за ўсё яе прыцягвае біжутэрыя — упрыгажэнні з костачак ягад і фруктаў, шышак, шкарлупіны манчжурскага арэха, ракавінак. Старэйшыя члены секцыі — А. Яўсеева і С. Сырапушчынская — удала працуюць у жанры «Лясная скульптура».

Секцыя «Прырода і творчасць» цяпер пераўтворана ў клуб з дзвюма секцыямі: «Лясной скульптуры» (займаюцца стварэннем з драўнянага матэрыялу аб'ёмных мастацкіх твораў) і «Фларыстыкі» (стварэннем пано з засушаных сцёблаў, лісця і кветак раслін). Базай клуба з'яўляецца «Дом прыроды», які нядаўна адкрыўся на тэрыторыі Троіцкага прадмесця. З'явілася магчымасць больш сустракацца, часцей і шырэй праводзіць творчыя сустрэчы і выстаўкі.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1294